**Носьбіты** вольнага слова: Лаўрэаты прэміі «За свабоду думкі» 2008–2011 гадоў. — Мінск: 2012. — 88 с.

У кнізе сабраны рэпартажы са святкавання дня народзінаў Васіля Быкава і штогадовай цырымоніі ўручэння нацыянальнай прэміі «За свабоду думкі», заснаванай Аляксандрам Мілінкевічам.

Зборнік дае чытачам магчымасць пазнаёміцца з лаўрэатамі прэміі — тымі выбітнымі асобамі, якія зрабілі значны ўнёсак у духоўнае і культурнае жыццё Беларусі.






Каб перадусім была Беларусь



***ы прыехалі сюды не першы раз. У вас у сэрцы — Беларусь, любоў да Бацькаўшчыны, любоў да Быкава.***

Ён і сёння жывы. Жывое тое, за што ён змагаўся. У ім заўсёды адчуваўся стрыжань, моц, была ў ім сіла, людзі да яго цягнуліся, нават больш вядомыя, заслужаныя. Васіль Быкаў — вялікі пісьменнік, але ён для нас і вялікі грамадзянін.

Хочацца нагадаць пра тую прэмію, што ўручаецца ўжо чацвёрты раз, як яна ўзнікла і чаму яна мае служыць. Прэмія паўстала пасля таго, як у канцы 2006 года Еўрапарламент прыняў рашэнне ўзнагародзіць беларусаў прэміяй імя Сахарава, і яна называлася «За свабоду думкі». У нас з'явілася ідэя, што нават калі хтосьці персанальна яе атрымоўвае, прэмія прызначаецца не толькі таму, хто стаіць на трыбуне і прамаўляе ад імя краіны.

Яна прызначаецца ўсім беларусам, якія перамаглі страх і пачынаюць думаць і дзейнічаць вольна. Наша прэмія — працяг той прэміі імя Сахарава, і мы хочам, каб яна жыла доўга. Для нас гэта вельмі важна.

Калі выходзяць людзі і кажуць: «А мы годныя, а мы хочам жыць інакш», — значыць, людзі кімсьці натхнёныя. Хтосьці пачытаў кніжку, якую напісаў гэты чалавек, хтосьці з кімсьці пагутарыў. Мы будзем адзначаць тых, хто сеюць вольныя ідэі, сваім прыкладам вядуць да Свабоды.

Першы год мы ўзнагародзілі траіх. Мы спыталі каля 30 вельмі вядомых асобаў: «Скажыце, якія тры чалавекі паспрыялі, каб было больш свабоды, больш беларускасці, каб Беларусь была вольнай сярод вольных, роўнай сярод роўных у Еўропе?» Яны прызначылі гэтых трох чалавек. Далейшых вызначала ўжо не вялікая група, а самі тры лаўрэаты.



Маю надзею, што калі-небудзь журы будзе вельмі вялікае, і яно будзе шукаць тых, хто ў той час найбольш паспрыяе Радзіме.

Не праміну, каб не сказаць, што Беларусь сапраўды на парозе тых пераменаў, пра якія марыў Васіль Быкаў. Набліжаюцца яны хутка, дынамічна, але не такімі простымі могуць быць. Многае залежыць ад кожнага, хто тут ёсць.

Некаторым здаецца, калі ў краіне нарастаюць пратэсты, то каўбасны пратэст вырашыць усе праблемы. Гэта не так. Калі не будзе ідэі, ідэалогіі — не будзе пратэст карысным для Бацькаўшчыны.

Калі мы не будзем думаць пра нацыянальныя інтарэсы, не будзе карысці ад нашага супраціву. Ён павінен мець ідэю. Шмат што залежыць ад кожнага з нас, ад таго, наколькі мы аб'яднаныя. Разам мы — сіла.

Мусіць быць такі мірны кулак, які будзе дамагацца свабоды і дэмакратыі. Сэрцам гэтага кулака павінна быць беларуская нацыянальная ідэя. Калі мы робім справы — палітычныя, грамадскія, жыццёвыя, — нам важна, каб у нас была мэта. Гэта мэта вельмі простая: каб перадусім была Беларусь — Беларусь беларуская, Беларусь еўрапейская, Беларуская вольная. Калі мы разам будзем за гэта змагацца, кожны з усёй адказнасцю, Беларусь будзе свабоднай і шчаслівай.

***Слова лідара Руху «За Свабоду» Аляксандра Мілінкевіча***
***Бычкі, 19 чэрвеня 2011 года***





вабода слова вызначае ступень свабоды ў грамадстве



***аўрэатамі прэміі «За свабоду думкі» імя В. Быкава сталі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў і нацыянальнага ПЭН-цэнтра Уладзімір Арлоў і Павал Севярынец.***

Гісторыя заснавання прэміі бярэ пачатак у канцы 2006 года, калі лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч быў узнагароджаны прэміяй імя А. Сахарава Еўрапейскага парламента. У сваёй прамове ён тады адзначыў, што хацеў бы перадаць гэтую ўзнагароду тым, хто самааддана змагаўся за вольную Беларусь, цярпеў рэпрэсіі і выпрабаванні. У 2007 годзе ў Бычках, на адзначэнні дня народзінаў В. Быкава, А. Мілінкевіч абвясціў пра заснаванне прэміі «За Свабоду думкі», якой будуць ганаравацца асобы, чыя творчая і грамадская дзейнасць скіравана на карысць Беларусі і Свабоды. На працягу месяца працавала прадстаўнічае журы з 32 ганаровых асобаў, якія вылучылі па тры намінанты на прэмію. Падвядзенне вынікаў акрэсліла пераможцаў.

Першая ўрачыстая цырымонія ўручэння прэміі адбылася 26 чэрвеня 2008 года ў сядзібе Дома-музея В. Быкава ў Бычках. Вушацкая зямля, атуленая лясамі ад шумных трактаў, прымала гасцей. З важнай нагоды прыехала шмат наведвальнікаў.

Імпрэза пад адкрытым небам адбывалася з удзелам вядомых грамадскіх, навуковых і культурных дзеячаў краіны, сярод якіх былі Станіслаў Шушкевіч, Радзім Гарэцкі, Зінаіда Бандарэнка, Уладзімір Някляеў, Ада Райчонак, Валеры Мазынскі і іншыя. Урачыстасць адкрыў лідар Руху

«За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч. Ён уручыў ганаровым лаўрэатам прэміі бронзавыя статуэткі аўтарства Віктара Копача і памятныя дыпломы.

Як заўважылі прысутныя, прызнаныя аўтарытэты ў галіне літаратуры, лідары свабоднай думкі — Р. Барадулін, аўтар кнігі духоўнай паэзіі «Ксты», Ул. Арлоў, складальнік «Імёнаў Свабоды», і П. Севярынец, папулярызатар «Нацыянальнай ідэі», — паходзяць з Полаччыны і Віцебшчыны.

Да прысутных са шчырымі словамі падзякі звярнулася сястра Васіля Быкава — Валянціна Уладзіміраўна. З яе вуснаў госці сядзібы пачулі малавядомыя эпізоды з ваеннай біяграфіі пісьменніка.

«Я вельмі задаволены і ўсцешаны тым, што прэміяй уганараваны шаноўны паэт Рыгор Барадулін, — адзначыў святар Леанід Акаловіч. — Яму першаму належыць узнагарода як аднадумцу, сябру і паплечніку, земляку, які мужна трымае неба беларускага слова».

«Свабоднае слова можна зрабіць больш, чым іншыя формы грамадскіх дзеянняў. Але свабода — гэта яшчэ і адказнасць за сваю краіну, Радзіму, народ», — сказаў народны паэт Рыгор Барадулін.

«Для мяне ўзнагарода вельмі дарагая, — адзначыў Уладзімір Арлоў. — Яна носіць імя чалавека, які ўвасабляе імкненне да свабоды, гонару і годнасці Беларусі. Яго досведам выпрабоўваюцца сапраўдныя ўчынкі і галоўныя пытанні. Мы часта думаем: «А што б сказаў Быкаў?» Я ўпэўнены: калі-небудзь мы будзем хадзіць па вуліцах імя Быкава, моладзь будзе сустракацца каля яго помніка».

«І зараз для кожнага з нас стаяць пытанні: верыць ці здрадзіць, перамагчы ці саступіць? Васіль Быкаў нагадаў, што вайна з несправядлівасцю, страхам, няпраўдай працягваецца і сёння, — сказаў Павал Севярынец, — і мы павінны завяршыць яе перамогай! Верым! Можам! Пераможам!»

Святочны настрой падтрымалі спевамі для ўсёй грамады вядомыя выканаўцы Віктар Шалкевіч і Андрэй Плясанаў. Сімвалічная вячэра адбылася пад зялёным дубам недалёка ад буслянкі.

Дзень, праведзены на вушацкай зямлі, пакінуў шмат цёплых уражанняў. Сустрэчы з самымі шаноўнымі людзьмі,



магчымасць паціснуць ім руку і падзякаваць за нястомную працу былі шчаслівейшымі момантамі для кожнага з наведвальнікаў імпрэзы.

Уразіла запаветная прырода краю, з люстэркамі лясных азёраў, дзе напоўніцу пазнаецца «глыбіня цішыні», адкуль бяруць вытокі родныя вобразы калыскі паэтаў і асветнікаў.

***Эла Дзвінская***



# Быць нататнікам Бога

***Біблейскае апісанне хаосу лаканічнае і вычарпальнае. «А зямля была нябачная і пустая, і цемра над безданню...» Як ні напружвай уяўленне — так зямлі нябачнай не прымроіш. Бо немагчыма ўявіць пустату, не апладненую духам Божым. Першаакт тварэння доўжыўся шэсць дзён, але не закончыўся. Свет і сёння даствараецца і дарабляецца. Богам і тымі, каго Усявышні абярэ сабе ў памочнікі.***

Паэту даручана працаваць з першаматэрыялам, які быў ад пачатку, — са словам. Са словам шматзначным і ўсеахопным: ягоны грэцкі першародак Логас утрымлівае ў сабе ажно сем паняткаў!

Словы — як алмазы з сотнямі граняў, кожная з якіх выпраменьвае сваё адценне святла. І якім пільнавокім трэба быць, каб падабраць грань да грані! Не памылішся — і ток паэзіі ажывіць паэтычны ружанец. Схібіш — і слоўны ланцужок бязладна забразгаціць, яго штучныя абдымкі не сагрэюць ні душы, ні запясця.

Бог і Паэт — сутворцы, дэміургі, якія з хаатычнага твораць уладкаванае. Абодва яны паводле прызнання — ворагі той цемры над безданню, якая няўявімая, бо імя ёй — Нішто.

Не дзіва, што Паэт раней ці пазней адчувае патрэбу перамовіцца з Богам, параіцца, як вучань з майстрам. Каб атрымаць падказку, пачуць ухвальнае слова, альбо — выслухаць наракання. Бо хто яшчэ мае права на рэвізію Паэтавага даробку? Толькі Той, Хто распачаў гэту работу.

Ці лёгкае яно — сумоўе Паэта з Богам? На гэтае пытанне існуе многа адказаў. Выберам адзін з іх, занатаваны Аляксандрам Пушкіным у апавяданні «Егіпецкія ночы». (Дарэчы, пушкіністы мяркуюць, што герой апавядання Імправізатар спісаны з Адама Міцкевіча, які сапраўды сваімі паэтычнымі імправізацыямі ўразіў шматлікія пецярбургскія салоны). Вось яно, пушкінскае апісанне: «І тут ён адчуў набліжэнне Бога... Твар ягоны страшэнна паблядней, ён затрымцеў, нібы ў ліхаманцы, вочы яго заблішчалі дзіўным агнём, ён прыўзняў рукою свае чорныя валасы, выцер хусцінкай высокі лоб, што пакрыўся каплямі поту...»

Не верце тым, хто трактуе паэтычнае рамяство як гульню словаў. Ад гэтай «гульні» знемагаюць не раўнуючы як на лесапавале. Вытрымаць падобнае могуць толькі моцныя духам. Слабых, як правіла, чакае трагічны фінал.

У якой спецсувязі сумаўляецца Бог з Паэтам? Гэтага нам ведаць не дадзена, гэта таямніца. Можна толькі здагадвацца, што перагаворваюцца яны беспасярэдне, і ніхто не можа падслухаць іхняй размовы. Бо хвалі прыёму-перадачы па тым бяздротавым тэлеграфе вядомыя толькі таму, хто гаворыць, і таму, хто слухае.

Рыгор Барадулін стварае свой паэтычны космас з настойлівасцю Усявышняга, які шэсць дзён не ведаў адпачынку і толькі на сёмы, выпусціўшы на белы свет чалавека, дазволіў сабе перавесці дух. Космас Барадуліна — гэта біясфера, дзе ўсё жывое мае свой голас, і стратасфера, дзе займае ад галавакружнай вышыні. «Зямля — парушынка ў Гасподнім воку». Такое з птушынага палёту не ўбачыш. Тут патрэбныя іншыя вышыні і міжгалактычны маштаб.

У паэзіі Барадуліна ёсць усё. Гэта ўніверсум, якому дасць рады хіба атрад акадэмікаў ад літаратуры. Чаго паэт шчасліва пазбегнуў, дык гэта бязбожжа. Ужо ў першай сваёй кнізе «Маладзік над стэпам» (1959) ён апісвае саляную шахту ў Польшчы, дзе пабачыў незвычайны, з солі, абраз Хрыста. І гэта ў час ваяўнічага атэізму, калі паторгаць Бога за бараду лічылася ледзь не модай.

У адной царкоўнаславянскай рукапіснай кнізе 1076 года ўтрымліваўся наказ: «Глаголи Богу много, а человеку мало». Ледзь не тысячу гадоў прайшло, а названы прыярытэт застаецца ў сіле. Бога паэт слухае, да Бога прамаўляе. Дыялог Барадуліна з Усявышнім працягваецца ўжо больш за паўстагоддзя. Назвамі зборнікаў паэт падкрэсліваў сваю далучанасць да высокай тэмы: «Адам і Ева», «Самота паломніцтва», «Евангелле ад Мамы», «Ксты», «Руны Перуновы»...



Архімеду, каб зрушыць шар зямны, патрабавалася кропка апоры. Паэт у сваёй планетарнай працы выкарыстоўвае рычаг метафізічны, які знайшоўся ў гаспадарцы Бога. Уважаныя потым на Божым бязмене рэчы набываюць іншую вагу.

«Душа — адзіны храм, дзе Бог жыве. Саборы ды бажніцы — дамавіны». «Ізноў жывыя нада мной, як думкі Госпада, аблокі».

«Белую аблачынку вішні, здаецца, выдыхнуў Усявышні».

На пачатку новага стагоддзя адначасова пісаліся «Ксты» і «Руны Перуновы». Хрысціянства і язычніцтва ў нашым жыцці паядналіся, злучыліся, як кнот са свечкай. Нездарма Рыгор Барадулін назваў сябе кшчоным паганцам. Бо з гледзішча вечнасці істотныя і дахрысціянскі досвед чалавецтва, і вопыт, назапашаны за два апошнія тысячагоддзі. І марудны хронас паводле календара друідаў, і імклівы бег часу ад мяжы, пазначанай Anno Domini.

Своеасаблівым злучвом паміж двума стагоддзямі — XX і XXI — стала паэтава кніга «Ксты» (першае выданне выйшла ў 2005 годзе). Сучасны чытач любіць дакладныя словы. Таму пакруціўшы і так, і гэтак малаўцямныя «Ксты», з палёгкай прычэпіць да яго прыстаўку тэ-. Тэ-ксты. Але і ў такім варыянце слова не адрачэцца ад сваёй боскай семантыкі і перакінецца ў тэа-ксты. Божыя ксты. Бо, як і «логас», слова «ксты» шматзначнае. Гэта і крыжы, і складзеныя для хрышчэння пальцы, і сам хрост як абрад. А яшчэ так называецца вёска пад Полацкам, якой Барадулін вызначыў быць цэмем Беларусі. Гэта значыць — цяміць, кеміць у тым, у чым іншым другім цяжка разабрацца.

Дэміургавасць Барадуліна праяўляецца не толькі ў пераадоленні хаатычнага. Тут яму працуецца лягчэй, пакольнкі — на пару з Богам. Але на зямлі тысячы народаў, і кожны з іх прагне ўвагі Усявышняга. Як на ўсіх часу дабраць? І Бог давярае датвараць народы паэтам. У белару-

скай сітуацыі давяраў Багушэвічу. Давяраў Багдановічу. Цяпер даверыў Барадуліну. Але пад беларускі компас хцівы сусед паклаў жалезную сякеру, і збіліся ўсе азімуты. Пакуль народ няспешна выходзіць са стану духоўнай анамаліі, паэт ужо засяродзіўся над сваім ганчарным кругам. Затрымка пакуль у адным: «Як асмялець папрасіць у Госпада гліну, каб вылепіць з яе задуманую Айчыну?..»

Айчына Барадуліна — Мова. Тут ён паўнапраўны гаспадар. Чытаеш паэзію Барадуліна, і рука сама цягнецца да асадкі, каб выпісаць прыдуманыя паэтам словы. Дужасіл. Шчалуга. Хмарабровасць. Сонцакрылы жаўранак. Прыхмарваць страх. Небаўзносіцца хвалой…

Зайздрошчу тым лексікографам, якія калі-небудзь складуць слоўнік Рыгора Барадуліна. Яны спрычыняцца да свята мовы, якога раней мы не ведалі. Рыгору Барадуліну не хапае беларускага сучаснага слоўніка з яго стотысячнай слоўнай кагортай. У адной «Песні над песнямі Саламонавай», перастворанай ім па-беларуску, налічана 68 новатвораў, не зафіксаваных у айчынных словазборах!

Усё вышэйсказанае не азначае, што геній Барадуліна — з’ява выключна беларуская, якой не выпадае падзяліцца з усім астатнім чалавецтвам. Дзяліцца якраз неабходна. Бо радасць — не радасць, калі ты радуешся сам-насам на сваім хутары.

Дарэчы, сам Барадулін як перакладчык — яшчэ адзін феномен, які не мае аналагаў у беларускай літаратуры. Сядаючы за гэтыя нататкі, я адмыслова налічыў — ён перакладаў з 37(!) моваў. Што цікава, усе без выключэння паэты — і вечнанатхнёныя сярэднеазіяцкія акыны, лужыцкія будзіцелі, і шматлікія братнія баяны і баснікі — з-пад пяра Барадуліна лёгка ставалі на крыло, шчодра апераныя часам не ўласцівымі ім метафарамі. Ніводнага паэта перакладчык не пакінуў у бязвобразных рызманах, апрануў, як мог.

Збеларушчаны Барадуліным-перакладчыкам паэтычны абсяг велічэзны — ад летапіснага «Слова пра паход Ігаравы» да гуллівых латышскіх дайнаў. Адзін пералік паэтаў заняў бы пару старонак. Але адну акалічнасць не хацелася б пакінуць па-за ўвагай. З асаблівай прыхільнасцю Барадулін перакладае прадстаўнікоў пакрыўджаных народаў, з кім гісторыя абышлася, дый працягвае абыходзіцца, не дужа літасціва, — сербалужыцкіх, чачэнскіх, талышскіх паэтаў (талышы — народ, які жыве ў Азербайджане). «Няма народаў малых, бываюць малыя паэты». І ў гэтым шчодрасць душы і грамадзянская пазіцыя Барадуліна.



Увогуле, я перакананы, што Барадулін рана ці позна стане культурным брэндам Беларусі. Як зубр, дзякуючы славутай «Carmen de bisonis» Міколы Гусоўскага, стаў сімвалам беларускай сілы і велічы. Урэшце, мне ў гэтым бачыцца пэўная гістарычная справядлівасць. Энергетыка Барадулінскага верша здольная будзіць старую анемічную Еўропу, закалыханую верлібрам. Зрэшты, Еўропа ўжо і сама спрасоння пацягнулася да сілабатанічнай паэзіі — да прыкладу, у Італіі зноў уваходзяць у моду санеты Петраркі.

Гарманічнае жыццё народа немагчымае без сацыяльнага прызнання паэзіі. У вагонах пражскага метро на відным месцы развешаны вершы Ярослава Сайфэрта. Па Вільні ездзяць тралейбусы з партрэтам Крысціёніса Данелайціса. У Варшаве паэтычныя фестывалі праходзяць у колішняй каралеўскай рэзідэнцыі ў Лазенках. Менску пакуль няма чым пахваліцца. Беларускія паэты часцей выступаюць у дольных залах касцёлаў. Пайшлі ў падзямеллі, як першахрысціяне ў каменяломні.

У мудра-празорлівага Алеся Адамовіча ў дзённікавых запісах мне сустрэлася нечаканая думка: «Добра быць нататнікам Бога». Паэзія Рыгора Барадуліна і ўяўляецца мне тым нататнікам, куды Усявышні час ад часу надыктоўвае народжаныя на нябёсах радкі.

***Міхась Скобла***

***Прадмова да збору твораў Рыгора Барадуліна***



# Момант ісціны

***Я** нарадзіўся ў год Змяі паводле ўсходняга календара і ў год смерці Сталіна паводле календара савецкага. Мой прыход на свет адбыўся пад задыякальным знакам Дзевы ў найстаражытнейшым горадзе Полацку.*

Гарадская радзільня знаходзілася на полацкім Верхнім замку, за нейкую сотню крокаў ад Сафійскага сабора. Якраз на Сафію і выходзілі вокны палаты, адкуль мая мама Марыя ўпершыню паказала мяне бацьку Аляксею.

Сафійскія вежы, убачаныя няцямлівымі вачыма немаўляці, сталіся маім першым уражаннем ад навакольнага свету, і, магчыма, менавіта гэта перадвызначыла мой лёс.

Маё маленства смяялася і плакала на старажытных полацкіх вуліцах, але пра пошукі скарбаў і лёхаў, што вядуць з полацкіх храмаў на той бок Дзвіны, пра выпрабаванні смеласці на вузенькім гзымсе вакол купала Багаяўленскага сабора, пра злачынна ўзняты ў паветра на нашых дзіцячых вачах сабор святога Стэфана, пра першае каханне і першую здраду лепш пачытаць у маіх кнігах.

Мая мама выкладала гісторыю, а бацька быў пракурорам. Дзякуючы суровай бацькавай прафесіі я атрымаў першую мянушку — «пракурор». Так мяне клікалі ў мамінай роднай прыдняпроўскай вёсцы на Шклоўшчыне, дзе я штогод летаваў у бабулі Аўгінні.

Бабуля была ўдавой. Яе мужа (майго дзеда) Максіма Дзянісава расстралялі ў 1933 і рэабілітавалі ў 1963 годзе. Бабуля Аўгіння адкрыла мне тое, што цяпер я называю беларускім космасам. Яна была маёй першай настаўніцай — не толькі мовы, але, напрыклад, і батанікі. Яна прыводзіла мяне на поплаў ці на гумнішча, садзіла на грудок і пачынала

свой урок. «Гэта здрыжнічкі, — казала яна, паказваючы мне краску ці травінку, — гэта ястрэц, вунь на выжарыне скрыпень зацвітае, а вось тут братаўка прытулілася…»

Пасля школы зорка лёсу прывяла мяне на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Там сустрэў сяброў, дзякуючы якім пераканаўся ў тым, што я не савецкі чалавек, а беларус, і што мая радзіма — Беларусь, а не СССР. Там сустрэўся з маёй будучай жонкай Валянцінай, якая стане паэтэсай Валянцінай Аксак і маці маіх сыноў Рамана і Багдана.

На вялікае шчасце, у гады майго студэнцтва з'явіліся раманы, аповесці і апавяданні Уладзіміра Караткевіча. Дзякуючы ім я пачаў адкрываць сапраўдную гісторыю Беларусі. Гэта была гісторыя, вартая еўрапейскага народа: з тысячагадовай традыцыяй дзяржаўнасці, з бліскучымі перамогамі пад Грунвальдам, Оршай і Кірхгольмам, з Магдэбургскім правам у гарадах, эпохамі Рэнесансу і Рэфармацыі, якіх гэтаксама, як і Магдэбургскага права, у Расіі ніколі, на вялікі жаль, не было…

Аднойчы на студэнцкай вечарынцы сярод іншых забаў і гульняў хтосьці прапанаваў і такую: без роздуму напісаць імёны дзесяці гістарычных асобаў. Пасля гэтага конкурсу стаяў гамерычны рогат, бо найчасцей у адказах сустракаліся імёны сярэднявечных японскіх уладароў-сёгунаў. Прычына была ў тым, што мы ўсе захапляліся таленавітым лекцыямі нашага выкладчыка гісторыі Японіі і Кітая. Але ніхто з нас, будучых выпускнікоў гістарычнага факультэта, не згадаў аніводнай асобы з мінулага Беларусі! Яно, гэта мінулае, не было часткай нашай свядомасці, не ўспрымалася нават намі, студэнтамі — гісторыкамі БДУ, як неацэнная нацыянальная каштоўнасць. Гісторыя нашай зямлі не напаўняла жыццё шырокім няпобытавым сэнсам, не дапамагала нам глыбей спасцігнуць сучаснасць, каб быць гатовымі для будучыні.

Тады я перажыў тое, што называюць «момантам ісціны». Мне ўпершыню так балюча адкрылася бездань нашага гістарычнага бяспамяцтва. І я сказаў сабе, што як палачанін з нараджэння, як гісторык па адукацыі і літаратар паводле схільнасцей я проста абавязаны змагацца з гэтым бяспамяцтвам, якоеператварае народ у насельніцтва і ўрэшце пазбаўляе яго гістарычнай перспектывы.



Першая мая кніга прозы выйшла ў 1986 годзе. Назву ёй дало апавяданне «Добры дзень, мая Шыпшына», адным з першых чытачоў якога быў Уладзімір Караткевіч. Атрымаўшы ягоны ліст з залішне ўзнёслым водгукам на мае літаратурныя практыкаванні, я некалькі дзён лётаў як на крылах.

Трымаючы ў руках аўтарскія экземпляры кнігі, я скрушліва думаў, што ўжо не пашлю яе са свайго Полацка ні Уладзіміру Караткевічу, ні Ларысе Геніюш, у якой мне не раз даводзілася бываць і аднаму, і з сябрамі — маладымі літаратарамі і гісторыкамі. Яшчэ і цяпер, калі-небудзь у зімовую раніцу, не зусім прачнуўшыся, магу ўсцешана падумаць: перад Калядамі паеду ў Зэльву да Бабулі — так мы называлі між сабой Ларысу Антонаўну ў гаворках, лістах і тэлефонных перамовах. Я выступіў на пахаванні нашай славутай паэткі і нязломнай грамадзянкі БНР, пасля чаго кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў атрымала загад выкрасліць мяне са спіса нарады маладых літаратараў. Хачу сказаць маім невядомым дабрадзеям шчыры дзякуй, бо якраз у дні той маскоўскай нарады мне ўсміхнулася муза Кліа. Я сеў за стол і напісаў маё першае гістарычнае апавяданне «Місія папскага нунцыя».

Гэты быў пачатак другой маёй кнігі, якая з'явілася ў 1988 годзе пад назвай «Дзень, калі ўпала страла».

З таго часу ў мяне выйшла трыццаць кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ. Некаторыя з іх былі адзначаны прэміямі і ўзнагародамі, самымі дарагімі з якіх я лічу медаль Францішка Скарыны, атрыманы на пачатку 90-х, а таксама выдавецкую прэмію імя Уладзіміра Караткевіча і прэмію імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Як велізарную ўзнагароду ўспрымаю і пераклады маіх тэкстаў на асноўныя еўрапейскія мовы, а таксама на польскую, літоўскую, эстонскую, румынскую, украінскую, латышскую, чэшскую, славацкую ды іншыя. Найбольш пашчасціла майму эсэ «Незалежнасць — гэта…», напісанаму ў 1990 годзе і прысвечанаму чарговай гадавіне БНР. Яно загучала на дваццаці мовах, і, на жаль, не страціла сваёй актуальнасці для нас і сёння.

На пачатку 90-х гадоў, калі кінастудыя «Летапіс» працавала на нацыянальную ідэю і мела ў гэтым дзяржаўную падтрымку, паводле маіх сцэнараў былі зняты навукова-

папулярныя фільмы «Ефрасіння Полацкая», «Сімяон Полацкі», «Полацкія лабірынты».

Разам з беларускай па маіх жылах бяжыць і цыганская кроў. Магчыма, з гэтай прычыны падарожжы займаюць у іерархіі маіх жыццёвых каштоўнасцей адно з першых месцаў. Пачынаючы з 1990 года, калі нарэшце стаў «выязным», наведаў дваццаць краін і чатыры кантыненты. Такі ўжо я чалавек, што ўсюды, нават у Афрыцы, найперш шукаў беларусаў і Беларусь.

Яшчэ я паспеў выпіць глыток віскі з выдатнай беларускай паэтэсай Наталляй Арсенневай на амерыканскім беразе возера Антарыё, у яе доме, пад вокнамі якога на кветніку раслі нашыя родныя валошкі. Паспеў пагасцяваць у пісьменніцы Аляксандры Саковіч у Кліўлендзе, а ў архіваў беларускай царквы Святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы, што ў штаце Нью-Джэрсі, знайшоў неапублікаваныя рукапісы Юркі Віцьбіча... Уражанні замежных вандровак сталі асновай кніг эсэ «Божая кароўка зь Пятай авэню», «Адкусі галаву вароне» і «Сланы Ганібала».

Варта адзначыць, што першым маім замежным падарожжам стала паездка на ўрачыстасці з нагоды 580 угодкаў Грунвальдскай перамогі, што адбываліся на тых самых палях і ўзгорках, куды вялікі князь Вітаўт прывёў свае сорак харугваў, трыццаць з якіх мелі баявыя штандары з «Пагоняй».

Дадам, што вандроўкі па далёкіх і блізкіх краінах пераканалі мяне: беларускія жанчыны — найпрыгажэйшыя ў свеце.

«Habent sua fata libelli» — і кнігі маюць свой лёс — казалі старажытныя лаціняне. Сапраўды, у кожнай з маіх кніг свая гісторыя. Першае выданне зборніка «Адкуль наш род» было арыштавана, бо нейкі пільны таварыш напісаў у адміністрацыю прэзідэнта данос, што Арлоў, маўляў, распальвае паміж братнім беларускім і рускім народам нацыянальную варожасць. Абвінавачанне грунтавалася на адзіным доказе: у кнізе ў дрэнным святле паказаны імператар Пётр I, які ў 1705 годзе ўласнаручна забіваў у Полацкім Сафійскім саборы ўніяцкіх святароў, а ягоныя салдаты ўзарвалі пазней нашу старажытную святыню. На шчасце, дзякуючы некаторым рэцэнзіям на маю кнігу, што напісалі супрацоўнікі акадэмічнага Інстытута гісторыі, розум перамог. Кніга не толькі вырвалася з-пад арышту і выйшла яшчэ трыма выданнямі, але нават патрапіла ў школьную праграму.



Праўда, на мае стасункі з уладамі гэта істотна не паўплывала, а ў 1997 годзе мяне звольнілі з пасады рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» з непаўторнай фармулёўкай у загадзе: «...за выпуск исторической, и другой сомнительной литературы». У выніку я атрымаў больш часу на напісанне гэтай «нехорошей» літаратуры, чым і займаюся.

Па-свойму дарагая мне кожная з кніг, на якіх стаіць маё прозвішча, але найдаражэйшай лічу «Таямніцы полацкай гісторыі» — мае прызнанне ў любові да роднага горада. У англічан ёсць такая прыказка: «Трэба ведаць што-небудзь пра ўсё і ўсё — пра што-небудзь». Полацк, ягоная гісторыя — якраз тое, пра што я хачу ведаць усё. Спадзявацца на гэта, вядома, наіўна, але, магчыма, сёння няма на свеце чалавека, які б ведаў полацкую гісторыю лепей за мяне.

Працуючы над «Таямніцамі полацкай гісторыі», я даведаўся пра старажытны звычай нашых продкаў-крывічоў. Дасягнуўшы паўналецця, юнакі ў іх здавалі своеасаблівыя экзамены на мужчынскую сталасць: ім трэба было пераплысці хуткую і глыбокую раку, ажыццявіць доўгі пешы пераход праз пушчу, упаляваць тура, мядзведзя або зубра, распаліць у залеву вогнішча, а яшчэ абавязкова было ведаць сваіх продкаў да пятага калена. Хто не ведаў, не меў права звацца мужчынам. Такому чалавеку не давяралі, яго маглі наогул асудзіць на выгнанне, бо лічылася, што бяспамятны ў час небяспекі лёгка зробіцца здраднікам.

Я схапіў паперу з алоўкам і пачаў ліхаманкава маляваць сваё генеалагічнае дрэва. Першыя вынікі былі несуцяшальнымі. Каб хоць збольшага аднавіць імёны сваіх продкаў, іх заняткі, адметныя звычкі і ўчынкі, я мусіў некалькі месяцаў распытваць сваякоў, углядацца ў пажоўклыя фамільныя фотаздымкі, расшыфроўваць дакументы з выцвілым атрамантам XIX стагоддзя, гартаць ацалелыя кнігі царкоўных запісаў. У выніку было напісана эсэ «Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегнуць выгнання».

Нашы далёкія продкі ведалі тое, што цяпер паспяхова даказвае навука. Духоўная энергія папярэдніх пакаленняў не знікае, яна жывіць род і ўвесь народ, дазваляючы яму

ў найцяжэйшы час выстаяць і перамагчы. Хіба выпадкова мы адчуваем гаючае ўзрушэнне каля старадаўніх сабораў і на палях вялікіх перамог? Але гэта жыватворная энергія ўплывае не на кожнага, а толькі на таго, хто захаваў з продкамі «канал сувязі» — памяць пра іх і іхныя дзеі. Склаўшы свой радавод, я пераканаўся ў гэтым на ўласным досведзе, і таму маю права раіць усім сваім знаёмым і незнаёмым чытачам: адрадзіце старадаўні звычай у сем'ях, займіцеся складаннем радаводаў, якія будуць працягваць вашыя дзеці і ўнукі. Сёння радавод шмат у каго атрымаецца кароткім, але, паверце, усё адно здарыцца дзіва: продкі пачнуць дапамагаць вам.

Я пераехаў у Мінск дваццаць гадоў таму, але Полацк не адпускае мяне, дый ніколі не адпусціць... Штомесяц мне проста неабходна хоць на дзень прыехаць туды, каб падыхаць яго паветрам, наведаць магілы бацькоў, сустрэцца з сястрой Таццянай, каб яшчэ раз пераканацца, што полацкі менталітэт, пра які я пісаў, — не міф, што ён, гэты менталітэт, як сказаў у сваім вершы Рыгор Барадулін, сапраўды, «ад Ефрасінні, ад Скарыны...»

У Полацку былі прамоўлены і напісаны мае першыя беларускія словы. У Полацку я навучыўся беларускаму светабачанню, светаразуменню і светаўяўленню. Там альфа і амега зямнога падарожжа.

Калі ў Марціна Лютэра запыталі, што ён будзе рабіць, даведаўшыся, што заўтрашні дзень у ягоным жыцці — апошні, ён адказаў: буду садзіць яблыні. Калі пра апошні дзень спытаюцца ў мяне, я адкажу, што прыеду ў Полацк, на радзіму маёй душы, маёй веры і майго стаіцызму.

Адна з маіх кніг, напісаная разам з гісторыкам Генадзем Сагановічам, называецца «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі». Мару, што на мяжы IV тысячагоддзя ад Нараджэння Хрыстовага хтосьці выдасць кнігу (звонку яна будзе, безумоўна, ані не падобная да нашых сучасных кніг) пад назвай «Дваццаць вякоў беларускай гісторыі».

***Гутарыў Аляксандр Тамковіч***
***З кнігі "Лёсы"***



Наша пакаленне літаратурна ўспрымала свет, гадавалася на кнігах



***Сустаршыня Аргкамітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру і Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтар кніг «Ды-джэі Адраджэння», «Нацыянальная ідэя», «Лісты з лесу», «Брату» Павал Севярынец нядаўна быў узнагароджаны прэміяй «За свабоду думкі». Урачыстая імпрэза ўручэння прэмій лаўрэатам ладзілася ў вёсцы Бычкі ў музеі Васіля Быкава. Падчас паездкі і адбылася наша размова з Паўлам.***

**— Полаччына, Віцебшчына — ваша малая радзіма — калыска асветнікаў. Які Ваш любімы куток у Віцебску?**

— Дзяцінства маё прайшло ў Баранi пад Воршай. Там я вучыўся ў 15-й сярэдняй школе. У Віцебск наша сям'я пераехала ў 1986 годзе. Тады яшчэ шмат храмаў у горадзе былі ў запусценні. Яны стаялі, парослыя быльнягом, з закалочанымі вокнамі. Ствараліся талокі з актывістаў, якія пачыналі іх рамантаваць, патроху разбіралі завалы. Туды запрашала нас з сёстрамі наша маці, і мы дапамагалі, разам разбіралі цэглу.

Цяпер горад набывае тое аблічча, якое меў сотні гадоў таму. Дамінантамі становяцца храмы — Дабравешчанская, Уваскрасенская цэрквы, Успенскі сабор. Мой любімы куток — гістарычны цэнтр, маляўнічы, узгорысты па сваім ландшафце.

**— На ваш малады век выпала ўжо нямала выпрабаванняў. Якія фактары ў жыцці спрыялі выхаванню моцнага характару і хрысціянскай дысцыпліны?**



— Я з сям'і беларускіх інтэлігентаў. Маці — Таццяна Яўгенаўна — настаўніца, бацька — Канстанцін Паўлавіч — журналіст. У мамы была даволі строгая і прынцыповая педагагічная пазіцыя. Яна выкладала ў адной школе, а мы наведвалі іншую, каб не было ніякіх паблажак. Усе трое скончылі навучанне з залатымі медалямі. Мама была класнай кіраўніцай, некаторы час — завучам, яна таксама імкнулася зацікавіць моладзь беларускім адраджэннем, вяла тэатральны гурток і гурток самадзейнасці, праводзіла экскурсіі. Потым яна дапамагала маладафронтаўцам, абараняла іх і падтрымлівала.

Тата спачатку настаўнічаў, быў дырэктарам школы ў Пагосце, потым перайшоў у газету ў Баранi і стаў галоўным рэдактарам. Працаваў у «Савецкай Беларусі», пасля — у незалежных выданнях. Зараз дзіцячыя кніжкі Канстанціна Севярынца вельмі папулярныя ў Расіі і выдаюцца вялікімі тыражамі, хаця ён не мае з гэтага ніякіх дывідэндаў.

Нашае пакаленне літаратурна ўспрымала свет, гадавалася на кнігах. Дома было вельмі шмат беларускіх выданняў. З маленства я спрабаваў пісаць, яшчэ недзе захаваўся вялікі дзіцячы архіў. Першае апавяданне на беларускай мове «Валожынскі бык» пра майго аднагодку, які паходзіў з Вішнева, я надрукаваў у 1994 годзе ў газеце «Знамя юности». У 1998 годзе на прафсаюзным рызографе друкавалася мая першая кніжка: «Ды-джэі Адраджэння».

**— Вашы кнігі дыхаюць любоўю да Беларусі. Што дало такі імпульс?**

— Па-першае, чытанне беларускіх кніг. Па-другое, захапленне геалогіяй. Калі цікавішся камянямі, мінераламі, то хочацца даведацца, што было на гэтай зямлі і што ёсць цяпер. Нараджаецца даследчыцкі інтарэс. Па-трэцяе, важным было знаёмства з Зянонам Пазьняком. На сустрэчу з ім мяне запрасіў бацька ў 1994 годзе ў Віцебску. Гэта сустрэча паўплывала на мой светапогляд. Таксама моцнае ўздзеянне аказалі такія асобы, як Вячаслаў Сіўчык, а зараз — Аляксандр Мілінкевіч.

Але самы моцны зарад — ад веры ў Бога. Я прыйшоў да веры, як многія, у час выпрабавання, калі першы раз

патрапіў у турму на Акрэсціна ў 1998 годзе. Сябра Аляксей Фралоў перадаў мне за краты Біблію, і яна стала для мяне самым моцным штуршком. Потым я шукаў сваю царкву, хадзіў да пратэстантаў, да каталікоў і нарэшце прыйшоў у Праваслаўную царкву, якая, на мой погляд, нясе паўнату ісціны і прыгажосці — у Свята-Петра-Паўлаўскі сабор.

Калі я адчуў веру, то адчуў і адказнасць. Я зразумеў, што павінен перадаць веды пра нашу зямлю, пра Госпада ўсім, хто іх прагне. Бо жніво вялікае, а работнікаў мала.

**— Чым для Вас з'яўляецца «Малады Фронт»?**

— Ганаруся, што спрычыніўся да фармавання цэлага пакалення маладых беларускіх патрыётаў, нацыянальна свядомых, мужных, смелых, настойлівых. З кагорты маладафронтаўцаў выйшлі людзі, якія сёння адыгрываюць важную ролю ў палітыцы, у культурнай і асветніцкай сферы.

Маладыя палітыкі, грамадскія дзеячы, журналісты і міжнароднікі: Алесь Міхалевіч, Юрась Губарэвіч, Уладзімір Лабковіч, Зміцер Дашкевіч, Павел Мажэйка, Андрэй Скурко, Сяргей Лісічонак. Пакліканне працаваць у культуры маюць Віталь Супрановіч, Антон Тарас і іншыя. Бадай што ўсе ў той ці іншай меры займаюцца спортам. Ёсць нават і чэмпіёны — Іван Тамашэвіч у конным спорце.

«Малады Фронт» — пярэдні край, эпіцэнтр сучасных моладзевых працэсаў, фокус, у якім адлюстроўваюцца глыбінныя ўзроставыя і светапоглядныя пераўтварэнні ўсяго грамадства.

**— Курсы ды-джэяў Адраджэння таксама былі пэўнай школай?**

— Так, гэта наша форма працы з'яўляецца вельмі выніковай. У ды-джэяў заўсёды была вельмі моцная дысцыпліна. У гэтым годзе мы плануем два выпускі. Ды-джэі Адраджэння — гэта тыя, хто разам з конкурсамі і віктарынамі, шоў, музыкай, абуджае ў моладзі цікавасць да сваёй краіны, нацыянальную свядомасць, адчуванне сэнсу жыцця і ісціны, адкрывае моладзі Беларусь і Бога вакол нас і ў нас саміх.



**— У вашай кнізе «Брату» сабраны праграмы дзейнасці за многія гады. Ці ёсць у Вас сёння адказы, як нам уладкаваць Беларусь?**

— Па-першае, моцная царква. Царква — гэта апірышча нацыі. Калі даць самастойнасць царкоўным абшчынам, яны хутка змогуць пераадолець такія заганы, як алкагалізм, наркаманію, паспрыяюць умацаванню сямейнага ладу. Пад патранажам хрысціянскіх канфесій змогуць эфектыўней дзейнічаць школы, медыцынскія ўстановы.

Другое — гэта мясцовае самакіраванне. Падтрыманне мясцовых ініцыятываў будзе моцным стымулам развіцця гарадоў і вёсак. На прынцыпе субсыдыярнасці трымаецца ўся Заходняя Еўропа і Злучаныя Штаты.

Трэцяе — эканамічная ініцыятыва. Вельмі важна падтрымаць малы і сярэдні бізнес. Малое і сярэдняе прадпрымальніцтва паслужыць цягачом, які выцягне нашу эканоміку.

Чацвёртае — культурная палітыка. Трэба адраджаць беларускую мову і культуру па прынцыпу прэстыжнасці. Самыя лепшыя ўніверсітэты і навучальныя ўстановы павінны стаць беларускамоўнымі. Каб вучыцца там студэнтам было прэстыжна, каб людзі лічылі за гонар размаўляць на роднай мове, карыстацца ёй дома, на працы, у справаводстве.

Моцная Царква — моцная сям'я, моцнае самакіраванне — моцная Беларусь!

**— Маглі б Вы вызначыць галоўныя накірункі актыўнасці Беларускай хрысціянскай дэмакратыі?**

— Зараз Аргкамітэт БХД праводзіць арганізацыйную працу ў рэгіёнах. Найважнейшыя яго задачы — кансалідацыя грамадства вакол духовага Адраджэння Беларусі, незалежнасці, дэмакратыі, гістарычнай пераемнасці і адказнасці за нацыянальную гісторыю і культуру. Абарона хрысціянскіх каштоўнасцяў, суверэнітэту і дэмакратыі, заслон спробам паняволення, распродажу Беларусі, адпор агрэсіі крыміналу, наркотыкаў, экстрэмізму, маральнай дэградацыі патрабуюць гуртавання ў адзіны народны рух усіх здаровых сілаў грамадства. Мы лічым, што эфектыўная рынкавая эканоміка цалкам сумяшчальная

з еўрапейскімі прынцыпамі ашчаднага выкарыстання рэсурсаў, безадкіднасці тэхналогіяў і павагі да Божага тварэння. Наша краіна, якая спазнала жах наступстваў Чарнобылю, мае забруджаныя глебы і паветра, у будучыні мусіць надаваць вялізную ўвагу сваёй экалагічнай бяспецы.

**— Як сёння нам змагацца за свабоду слова?**

— Галоўнае — не баяцца. Цвёрда пісаць праўду. Казаць пра тое, што адбываецца. Каб як мага больш людзей далучалася да дэмакратычнай супольнасці.

**На ўрачыстай імпрэзе ўручэння ўзнагарод мастак Алесь Пушкін нагадаў: «Павал Севярынец падобны ў нечым да герояў Васіля Быкава. Мы памятаем яго студэнтам геафаку БДУ, лідарам «Маладога Фронту», вязнем Малога Сітна, яркім сучасным публіцыстам. Жадаем яму таксама знайсці шчасце і дабраславенне ў сям'і. Бо там, дзе Бог, там — сапраўднае жыццё, салідарнасць, там — творчасць, каханне і шчасце».**

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Новы час», 18 ліпеня 2008 года*





# Свабодная думка лунае над Бычкамі



***адной з апошніх прыпавесцяў Васіля Быкава, надрукаваных у кнізе «Калі рукаюцца душы», занатавана, як народ хацеў знайсці галоўную Ідэю, і здабыў яе — правільную, моцную, якая дапамагала перамагаць і будаваць новае жыццё. Сучасная свабодная думка вылучаецца з сяўні новых Ідэй, яна патрэбна грамадству для прасвятлення жыцця як чыстае паветра, як стымул для руху наперад.***

Вострае слова Васіля Быкава, яго думка, празрыстая і афарыстычная, акрыляла тых, хто вылучаў лаўрэатаў на прэмію. Яна лунае тут, у музеі-сядзібе народнага пісьменніка, прыцягвае сюды кожны год наведвальнікаў з розных куткоў Беларусі.

«Добра, што месцам уганаравання абраныя менавіта Бычкі, я прысутнічаў у мінулым годзе на гэтай цудоўнай імпрэзе і быў вельмі задаволены», — сказаў пісьменнік Міхась Скобла.

З Віцебскай вобласці і Вушацкага раёна паходзіць цэлая жменя адметных літаратараў: Пятрусь Броўка, Рыгор Барадулін, Еўдакія Лось. Полаччына ўзлюляла Уладзіміра Арлова, Расоншчына — Генадзя Бураўкіна.

У 2009 годзе ў Вушацкім краі на дзень нараджэння Быкава запланавана свята паэзіі з наведваннем музеяў Пятруся Броўкі і Васіля Быкава і вечарынай у вушацкім Доме культуры.

На ўручэнне прэміі ў Бычкі прыехала больш за 60 чалавек — палітыкі, дзеячы мастацтва, дэмакратычныя актывісты і прыхільнікі творчасці Быкава.

Сёлета прэміяй «За свабоду думкі» ўганараваны незалежны мастак і патрыёт Алесь Пушкін, адданы сябар ТБМ і прапагандыст беларускай мовы. Творца скончыў мастацкую вучэльню, вярнуўся ў свой родны кут, аздабляе касцёлы і цэрквы, жыве з сям'ёй на вёсцы, гаворыць на роднай мове.

«Алесь Пушкін — гэта чалавек-легенда, — адзначыў старшыня мастацкай суполкі «Пагоня» Аляксей Марачкін. — Адзін з пачынальнікаў Адраджэнскага руху, ён не здрадзіў беларускай мове, прынцыповасці, годнасці. Сваёй дзейнасцю такія людзі перамяняюць свядомасць беларусаў. Уручэнне прэміі «За свабоду думкі» — важны прыклад для моладзі. Гэта робіць відавочным рух грамадства наперад». А пісьменнік Уладзімір Арлоў падкрэсліў: «Такія людзі найбольш плённа адстойваюць ідэалы свабоды».

«Лічу, што ўганараваны не я асабіста, а такі шлях жыцця, — сказаў у прамове сам лаўрэат. — Для мяне вялікае шчасце кожны дзень бачыць дзетак, вучыць іх, гаварыць з імі па-беларуску. Я лічу, што трэба любіць сваю зямлю, праслаўляць нашу краіну, дзе б ты ні быў: у Польшчы, Літве ці ў Нямеччыне, працаваць і быць аптымістам! Трэба быць актыўным, упрыгожваць свой родны кут, рабіць сваю справу. І не забываць пра ідэалы 25 сакавіка!»

Як распавёў жыхар Вушачаў спадар Васіль, мясцовае кіраўніцтва імкнецца трохі палепшыць жыццё людзей, аздобіць цэнтр горада, пакласці новую плітку на тратуары, але ж на ўсё не хапае магчымасцяў бюджэту.

Наведвальнікі ўрачыстасцяў прынялі ўдзел у напісанні дыктоўкі па кнізе В. Быкава «Доўгая дарога дадому» ў цёплым драўляным дамку сядзібы-музея. Тэкст дыктоўкі агучылі народны паэт Беларусі Рыгор Іванавіч Барадулін і народная артыстка Зінаіда Бандарэнка. З асаблівым уздымам і настроем яны паставілі адзнакі з аўтографамі ўсім натхнёным вучням.

Мерапрыемствы завяршыліся святочным сталом на ўлонні прыроды. Мясцовыя гаспадынькі шчыра пачаставалі гасцей бабкай, спечанай у чыгунку, салам і агуркамі.

***Эла Дзвінская***
***«Наша слова», 22 чэрвеня 2009 года***



# Незалежны мастак і шчыры чалавек



**Вольны мастак, нон-канфарміст Алесь Пушкін ладзіць перформансы, удзельнічае ў грамадскіх кампаніях, робіць пастаноўкі ў тэатры, піша дэкарацыі. У цэрквах і касцёлах застануцца абразы і роспісы, зробленыя ім. Алесь — шчыры і гасцінны чалавек.**

У 2008 годзе, калі прэмію «За Свабоду думкі» атрымліваў Павел Севярынец, каля сядзібы ў Бычках цёплыя словы пра яго сказаў мастак Алесь Пушкін. І ў сваім стылі перформансу не забыўся пажадаць Паўлу сямейнага шчасця і паху цёплых дзіцячых пялюшак.

На наступны год, у 2009-м, Алесь Пушкін сам быў абраны лаўрэатам прэміі, якой адзначаюць намаганні незалежных творцаў дзеля нацыянальных мэтаў, дзеля росквіту Беларушчыны.

Пушкін прывёз на імпрэзу карціны, якія раней былі мала вядомыя шырокай публіцы, дарыў гасцям буклеты, дзе адлюстравана яго духоўная творчасць. Сустрэча ў Бычках, на радзіме Васіля Быкава, змусіла зусім іншымі вачыма паглядзець на Пушкіна і зразумець унутраны сэнс працы мастака і мэту яго жыцця.

Са знаёмства з роспісамі і партрэтамі пачынала прыходзіць разуменне таго, што менавіта наш сучаснік, спазнаўшы шэраг нялёгкіх выпрабаванняў, адчуўшы на ўласнай скуры гора і боль вайны, спасціг кошт жыцця і радасць кожнага новага падоранага імгнення, ацаніў нявыказаную прыгажосць сусвету і імкнецца перадаць усё хараство ў фарбах і колерах.

Нашы гутаркі з лаўрэатам пачаліся ў Бычках, прадоўжыліся ў Віцебску, Вішнёве і Бабры.

**— Спадар Алесь, мястэчка Бобр Крупскага раёна і ёсць ваша малая радзіма?**

— Так, там я нарадзіўся 6 жніўня 1965 года. У 1978 годзе я паступіў у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Ахрэмчыка. Вучыўся ў П.П. Шарыпы. У 1983 годзе паступіў на першы курс манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

У 1990 годзе распісваў фае Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Ахрэмчыка. Гэта мая дыпломная работа.

**— Вы бунтар з дзяцінства або са студэнцкіх часоў, з вашага знакамітага першага перформансу ў 1989 годзе?**

— Яшчэ ў школе, у 1982 годзе, удзельнічаў у стыхійных выступленнях вучняў супраць самаўпраўства адміністрацыі. Мы складалі петыцыі, патрабаванні да адміністрацыі, абвяшчалі галадоўкі.

Мае першыя выставы і перформансы адбываліся ў сценах БДТМІ. У 1988 годзе ўдзельнічаў у студэнцкім руху — у Другім вольным сойме моладзевых суполак у Вільні, у першых Дзядах у 1988 годзе. 25 сакавіка 1989 года арганізаваў першы перформанс-святкаванне 71 угодкаў БНР.

14–21 ліпеня 1989 года Мінскі гарадскі суд прысудзіў мне за гэта два гады ўмоўна з пяцігадовым паражэннем у правах. Адбываў пакаранне, працягваючы навучанне ў БДТМІ.

**— Яшчэ студэнтам Вы патрапілі ў войска і былі накіраваны ў Афганістан?**

— Пасля заканчэння першага курса я быў прызваны ў войска. З 5 лістапада 1984 па 16 кастрычніка 1986 года я служыў у 40-й агульна-вайсковай частцы ў Афганістане ў верталётным палку. Не лічу, што гэтым фактам можна ганарыцца.

У войску я вёў дзённік, дзе напісаў, як непрыемна і сорамна адчуваць сябе акупантам у чужой краіне. За той дзённік я патрапіў на 10 дзён на гаўптвахту. Старшыня сказаў, што мае думкі не адпавядаюць лініі партыі ў афганскай інтэрнацыянальнай палітыцы. За дзесяць гадоў савецкай прысутнасці ў Афганістане загінула 2 мільёна афганцаў і 35 тысяч савецкіх салдат і афіцэраў. У 1986 годдзе я дэмабілізаваўся і аднавіўся на другі курс інстытута.



**— Здаецца, што ў вашым жыцці, таксама, як у Васіля Быкава, шмат што звязана з Віцебскам?**

— Сапраўды, Васіль Быкаў вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы да вайны. Я таксама пасля абароны дыплома выбраў накіраванне на працу ў Віцебск. 25 сакавіка 1991 года адбылася першая персанальная выстава артэфактаў дэкаратыўнага мастацтва — сац-арту ў Віцебску ў выставачнай зале АНМЦ Народнай творчасці, што па вуліцы Леніна.

Гэтая выстава была першым новым крокам у постсавецкім мастацтве Віцебска. Упершыню сац-арт з'явіўся ў Віцебску разам з перабудовай, галоснасцю, дэмакратыяй — рэаліямі таго часу. Гэтая ж выстава ў поўным складзе была перавезена ў Гародню, дзякуючы намаганням майго першага куратара-мастацтвазнаўцы, арганізатара гэтай выставы, спадарыні Ларысы Міхневіч, якая на той час была старшынёй Віцебскага фонду культуры.

Падчас путчу, 20 жніўня 1991 года, я вывесіў бел-чырвона-белы сцяг над ратушай горада Віцебска.

**— 90-я гады былі напоўнены духам свабоды і творчасці, у тым ліку духоўнай.**

**—** З 1992 года ў складзе мастацкай майстэрні Беларускай каталіцкай грамады я ўдзельнічаў у рэстаўрацыі і рэканструкцыі насценнага жывапісу Магілёўскага катэдральнага касцёлу Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

90-я гады XX стагоддзя — яскравая ілюстрацыя адраджэння духоўнага і нацыянальнага руху, культурна-асветніцкія часы. У тыя часы друкавалася мноства кніжак па гісторыі, Уладзімір Арлоў і яго паплечнікі выдавалі вельмі шмат. Маладым людзям хацелася з імпэтам паспя-

ваць, пагаманіць, праявіць свае ініцыятывы. Нам з Феліксам Янушкевічам давялося адрэстаўраваць дзве з паловай тысячы кубічных метраў барокавага жывапісу. Быў напісаны абраз св. Казіміра (Ф. Янушкевіч), Арханёл з мячом перамагае д'ябла. Фон роспісаў чырвоны, напружаны, сімвалізуе духоўную барацьбу. Фрэска св. Антонія мае вялікае духоўнае значэнне. У Магілёве традыцыйна ўшаноўваецца памяць пра святога Антонія, добрага цёплага малітвенніка.

Там жа мною напісаны фрэскі «Святая Цэцылія, патронка музыкі і спеваў», «Святы Арханёл Міхаіл, заступнік зямлі Беларускай», «Святы Антоні Падуанскі», «Святы апостал Іуда-Тадэвуш», «Глёрыя кардыналу К. Свентаку».

Тым часам пры дапамозе беларусаў-эмігрантаў з Амерыкі была адкрыта 23 сакавіка 1993 года першая прыватная Галерэя сучаснага мастацтва ў Віцебску «У Пушкіна». Упершыню ў постсавецкі час у горадзе з'явілася і аформілася як з'ява галерэя сучаснага постмадэрнізму ў жывапісе маладых беларускіх мастакоў з Полацка, Гародні, Віцебска, тых творцаў канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, што вучыліся са мной у БДТМІ. За 1993–1995 гады было праведзена 8 значных выстаў жывапісу, графікі, скульптуры, сучаснай фатаграфіі, пластычнага перфомансу. Усё гэта рабілася на свае зробленыя сродкі — ні Міністэрства культуры, ні арганізацыі і фонды не падтрымалі галерэю. Яна была першай лабараторыяй-эксперыментам апошняга накірунку сучаснага мастацтва ў Віцебску і Беларусі.

Галерэя была зачынена з матывіроўкай «парушэнне статута і нямэтавае выкарыстанне памяшкання». Акцыі першай прыватнай Галерэі сучаснага мастацтва ў Віцебску яшчэ праходзілі ў 1995–1996 гадах у розных памяшканнях Віцебска: «Арт-Уно-Дзіскус» у лютым 1995 года, «Арт-Прагноз–96» у сакавіку 1996 года).

У мястэчку Бобр з лета 1995 года я распісваў новаадбудаваную царкву Святога Мікалая Цудатворца. За лета 1996 і 1997 гадоў я закончыў роспіс царквы. Гэта мой апошні буйны манументальны твор.

У жніўні 1997 года я вянчаўся ў царкве, якую распісваў, і жыву цяпер разам з жонкай у мястэчку Бобр, у сваім невялікім доміку. 11–26 сакавіка ў Воршы, у гарадской выставачнай зале, прайшла мая тэматычная выстава жывапісу, графікі і сцэнаграфіі, да гэтага забароненай яшчэ ў 1996 годзе ў Віцебску Ірынай Бабенка, дырэктарам філармоніі.



**— Што Вы адчувалі, калі распісвалі касцёл у Магілёве, праваслаўную царкву на радзіме?**

— У дзяцінстве мы з мамай ездзілі ў храм у Барысаў, у Бабры тады яго не было. Гэтаму быў прысвечаны цэлы дзень. У 10-м класе я напісаў першы ў жыцці абраз Казанскай Божай Маці. Шчаслівая мама падарыла яго ў Барысаўскі храм. Бацька потым быў сябрам мясцовага Камітэту па аднаўленню Свята-Мікольскай царквы ў Бабры.

На трэцім курсе ў нас была капіявальная практыка, мы ездзілі ў Пскоў, Ноўгарад, знаёміліся з роспісамі Феафана Грэка і іншых майстроў.

Пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў мне найперш хацелася проста працаваць па адраджэнню нашых занядбаных святынь па сваёй спецыяльнасці паводле дыплому мастака-манументаліста. І гэта жаданне супала з тым дабраславенным часам свабоды (1991–1995) і з прапановамі, якімі я на той час быў багаты: ад каталікоў, Беларускай каталіцкай грамады, дый ад сваёй праваслаўнай парафіі новапабудаванай царквы Святога Міколы мястэчка Бобр Крупскага раёна.

І я не хаваю, што адчуў пачуцці гонару і задавальнення, бо выконваю Волю Божую сваім сціплым талентам і рукамі на абшарах роднай Беларусі. Што, атрымаўшы найлепшую на той час мастацкую адукацыю ў вядомых прафесараў і мастакоў нашай Беларусі — Г. Вашчанкі, А. Бараноўскага, П. Семчанкі, М. Раманюка, — я не ўцякаю, па дарозе ахаяўшы сваю Alma Mater і настаўнікаў, у Парыж, Лондан, Барселону ці Нью-Ёрк па славу і дабрабыт, а запатрабаваны тут. У беднасці і нястачы, але пры магутным на той час эмацыйным пад'ёме, які назіраўся ў нашай краіне...

**— Колькасць вашых выстаў складана пералічыць.**

— У Рэспубліканскіх выставах удзельнічаю з 1986 года. Удзельнічаў у міжнародных выставах (Расія, Нямеччына,

Швецыя, Нарвегія, ЗША). Працы знаходзяцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі, Гістарычна-архітэктурным музеі Полацка, гарадскіх музеях Воршы, у прыватных зборах Расіі, Беларусі, Польшчы, Нямеччыны, Латвіі, Швецыі.

**— У вашым жыцці здараліся экстрэмальныя выпадкі. Адзін з іх — затрыманне на Крапівенскім полі ў гадавіну бітвы пад Воршай. 7 сутак у турме.**

— Там, у старой Аршанскай вязніцы ў цэнтры горада, шмат чаго давялося пабачыць, пачуць, перадумаць…

З 1992 года пад Оршай, што недалёка ад нас, на Крапівенскім полі традыцыйна праходзіў фестываль, на які з’язджаліся барды, мастакі, моладзь. Мы ўсе гады туды збіраліся.

Зразумейце, была сеча, кіпела бітва, а цяпер гісторыя, пераплаўленая ў мірныя сродкі мастацтва, з’ядноўвае людзей, абуджае ў іх патрыятызм. Усе гэтыя гады мы ставілі намёты, чыталі вершы, спявалі ля вогнішча. Пасля таго, як тры разы міліцыянты пахапалі людзей і пасадзілі за краты, барды ездзіць сталі менш, людзі пачалі засцерагацца, традыцыя стала згасаць. Цяпер гістарычнае поле баявой славы ўвогуле зааралі, каб зарастала бур’янам. Цяжка туды праехаць трактару, каб падвесці дровы, ваду, харчаванне для супольнасці. У якой жа краіне гэта магчыма, каб поле гістарычнай славы занядбалі?!

**— Другі выпадак: Вас пабілі мясцовыя маладзёны на моцным падпітку за карыстанне беларускай мовай і свядомую грамадзянскую пазіцыю мастака. Вы замест таго, каб распачаць крымінальную справу, намовілі хлопцаў прынесці пакаянне ў царкве… Дзе Вы бераце сілы для хрысціянскага прабачэння?**

— Народу мала, бязлюддзе навокал, вымірае вёска. Ну як тут яшчэ гэтых беларускіх маладзёнаў у перапоўненыя турмы садзіць? Вось і палюбі на справе свой народ.

**— Хто Вам падаў цудоўную ідэю вырабіць шпакоўні і аддаць іх афармляць знакавым асобам? Такім чынам Вы запрашаеце да творчасці vip-персонаў?**



— Сам гэта пераражыў і прыдумаў. На 25 сакавіка 2008 года я першыя пяць шпакоўняў выставіў як сімвал Вясны, Свабоды, Аптымізму. Цяпер у мяне ўжо 35 шпакоўняў, распісаных уласнаручна вядомымі людзьмі.

**— У вашым жыцці былі сустрэчы з рознымі прыгожымі жанчынамі. Які скарб дабрачыннасцяў Вы знайшлі ў сваёй жонцы?**

— Жоначка Яніна Дэмух — сціплая, мудрая вясковая настаўніца, вучаніца Генадзя Сагановіча, свядомая беларуска з каталіцкай сям’і. Спагадлівая, верная, цярплівая. Дзетак нашых завуць Міколка і Марыйка.

Янечка нарадзілася ў Стаўбцоўскім раёне і марыла стаць археолагам. Яна выкладае гісторыю ў 5–11-х класах у бобрскай сярэдняй школы. Аднойчы мы разам з вучнямі вандравалі на возера Кромань. Пані Яніна займаецца з вучнямі археалагічнымі раскопамі. Ужо дзесяць гадоў яны са студэнтамі і скаўцкай харугвай вядуць раскопкі гарадзішча жалезнага веку на беразе возера Сялява. У летні перыяд яны вядуць раскопкі, узімку супрацоўнікі ў Акадэміі навук вывучаюць назапашаны матэрыял. На сваім зямельным участку над ракой яна знайшла сярэднявечны культурны слой. Перыядычна то тут, то там знаходзяцца керамічныя рэчы. Калі вада размывае шлях, дзеці знаходзяць у Бабры старажытныя манеты часоў ВКЛ. Сын Міколка ўжо заангажаваны ў раскопкі.

*Гутарыла Эла Дзвінская*



# Уручэнне прэміі, нацыянальная дыктоўка і вальс

**86-я** *гадавіна з Дня народзінаў Васіля Быкава сабрала прыхільнікаў яго генія ў Бычках. Радзіма пісьменніка стала месцам уручэння штогадовай прэміі «За свабоду думкі», якой адзначаецца шчыраванне на ніве беларускай культуры, грамадзянскасць, прага да свабоды слова і творчасці.*

У трэці раз урачыстая цырымонія ўручэння прэміі адбылася 19 чэрвеня 2010 года ў сядзібе Дома-музея В.У. Быкава ў Бычках. Вушацкая зямля шчыра сустракала гасцей.

На ўрачыстасць у Бычкі сабраліся грамадскія дзеячы, сярод якіх — лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, старшыня Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць» Іна Кулей, кіраўнік руху «Разам» Вячаслаў Сіўчык, старшыня Таварыства аховы помнікаў Антось Астаповіч, мастакі Аляксей Марачкін, Алесь Пушкін, пісьменнікі і паэты, выкладчыкі і вучні мясцовых школ.

З палымяным усхваляваным словам да прысутных звярнуўся сябра і паплечнік Васіля Быкава, паэт Генадзь Бураўкін:

— Вушацкая зямля нарадзіла безліч талентаў, сярод якіх — Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось, Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў і іншыя. Самы адметны з іх, Васіль Быкаў — сумленне, гонар і прарок нацыі, — далучыў нас да той несмяротнасці, да якой вядзе яго талент.

Васіль Быкаў выявіў тыповы характар беларуса ў такіх героях, як Сцепаніда і Пятрок, з іх натуральным і

глыбокім разуменнем праўды і чалавечнасці, з душэўнай далікатнасцю і адначасова рашучасцю.

Генадзь Бураўкін прачытаў верш «А ўсё не затухае бой», прысвечаны сябру. Сваімі творамі падзяліўся паэт з Вушаччыны Міхась Мірановіч, з прамовамі выступілі Іосіф Адамавіч Навумчык, старшыня віцебскага ТБМ, і Людміла Сіманёнак, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, паэт Фелікс Шкірманкоў, узялі ўдзел віцебскія літаратары Уладзімір Папковіч, Франц Сіўко.

— Мы кожны год прыязджаем сюды, у Бычкі, у сэрца Беларусі, — адзначыла народная артыстка Зінаіда Бандарэнка. — Як раней на тэлевізіі мне даводзілася перадаваць у прамы эфір словы: «Гаворыць і паказвае Мінск», так, спадзяюся, калі-небудзь мы будзем весці прамы рэпартаж адсюль, з радзімы Васіля Быкава, каб уся краіна ведала і адчувала разам з намі веліч і неўміручасць Быкаўскага слова.

У 2010 годзе прэмія «За Свабоду думкі» была ўручана Адзе Эльеўне Райчонак, старшыні Культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча, школьнай выкладчыцы з вялікім стажам, стваральніцы музеяў мастацтва, гісторыі і этнаграфіі, арганізатарцы пленэраў, шчырай рупліўцы на ніве культуры.

«Прэмія павінна несці адбітак жыцця Васіля Быкава — гэта справядлівасць, праўда, годнасць. Надышоў час надаць гэту прэмію жанчыне, якая робіць Беларусь беларускай, і робіць гэта праз культуру. Прэмію атрымлівае чалавек, які жыве не ў вялікім горадзе, бо беларушчына робіцца на месцах, тымі людзьмі, якія жывуць у самай гушчы свайго народу. І сёлета прэмія «За свабоду думкі» ўручаецца Адзе Райчонак!» — адзначыў Алесь Пушкін.

— Маю цікавасць да Язэпа Драздовіча абудзіў Аляксей Марачкін, — заўважыла Ада Эльеўна. — Дасягнуць мэты мне дапамаглі мае сябры як на Віцебшчыне, так і па ўсёй краіне: Уладзімір Колас, Лявон Баршчэўскі, Хрыстафор Жаляпаў, Міхась Гіль і іншыя. Успрымаю высокую ўзнагароду як пакліканне да далейшай працы.

У двары сядзібы была арганізавана выстава пад адкрытым небам «Постаці эпохі Васіля Быкава ў творчасці



беларускіх мастакоў», на якой былі прадстаўлены жывапіс Віктара Крука і габелены Святланы Баранкоўскай.

Па традыцыі, дыктоўку — урывак з кнігі «Доўгая дарога дадому» — задала гасцям спадарыня Зінаіда Бандарэнка.

Свята на свежым паветры працягнулі выступленні мастацкіх калектываў.

Пранікнёныя і віртуозныя мелодыі на цымбалах выканаў саліст Белдзяржфілармоніі Алесь Лявончык з Лагойска, бацька маладых сусветна вядомых музыкаў — піяніста і цымбаліста.

Грамаду ўзрадаваў разлівістымі спевамі гурт «Рэха» пад кіраўніцтвам Андрэя Такінданга. Андрэй мае афрыканскі карані, але нарадзіўся на Беларусі, яго мама паходзіць з Лепельшчыны. Яго прозвішча Такінданг перакладаецца як «замова супраць смерці дзіцяці». Гурт з шасці чалавек удзельнічае ў фестывалях «Бардаўская восень», «Басовішча» і становіцца ўсё больш папулярным.

Пад спевы тэмпераментных выканаўцаў госці сядзібы не ўтрымаліся і пусціліся ў скокі.

***Эла Дзвінская***
***«Наша слова», 30 чэрвеня 2010 года***



# Настаўніца, гаспадыня і маці пленэраў

***Ада Эльеўна Райчонак** — былая вясковая настаўніца, самы знакаміты і незвычайны чалавек наваколля — жыве ў вёсцы Германавічы Шаркоўшчынскага раёна. Ада Эльеўна адпрацавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры да самай пенсіі. Нядаўна яна адсвяткавала свой 75-гадовы юбілей.*

Яна нарадзілася 10 красавіка 1937 года ў Віцебску. Яе бацька насіў старажытнае габрэйскае імя. У вайну чарнявую дзяўчынку схапілі на вуліцы фашысты і разам з маці зацягнулі ў гета. Да гэтага часу яна памятае абрысы таго будынка…

Пасля вайны сям'я пасялілася ў Полацку. Тут у 1957 годзе Ада Эльеўна скончыла педвучэльню. Працаваць пачала ў слабадской сярэдняй школе, кіравала мастацкай самадзейнасцю. У 1965 годзе скончыла завочна філалагічны факультэт Пскоўскага ўніверсітэта. У 1971 годзе разам з мужам пераехала ў вёску Германавічы Шаркоўшчынскага раёна, дзе жыве дагэтуль.

Значную частку жыцця яна прысвяціла збіранню і прапагандзе спадчыны Язэпа Драздовіча — вядомага мастака, этнографа, асветніка. Стварыла ў сваёй вёсцы 2 музея разам з малодшым сынам Міхасём. Прычым, для апошняга музея набыла памяшканне за свае грошы. Праз гэта, дзякуючы настаўніцы, вёска мае Музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча і недзяржаўны Літаратурна-мастацкі імя М. Райчонка.

Сапраўдны настаўнік — гэта такі чалавек, які ўсё жыццё не толькі вучыць, але і вучыцца. Ада Эльеўна распавядала: «Быў у мяне школьны музей. І я вяла экскурсіі па-руску. Аднойчы прыбег вартаўнік: «Нейкія людзі хочуць вас бачыць!» Гэта былі хлопцы і дзяўчаткі з «Талакі», «Тутэйшых». І я ўпершыню пачула, што моладзь гаворыць на беларускай мове. Марылі, Сержукі, Цімохі! Мы гаварылі да раніцы. І я задумалася: а я, беларуска, што раблю для сваёй мовы?!»

Сёння Ада Райчонак — кіраўнічка Культурна-адукацыйнага цэнтру імя Я. Драздовіча — грамадскай арганізацыі, якую яна з паплечнікамі заснавала ў 1995 годзе. У 1996-м цэнтр правёў першы пленэр.

За гэты час Ада Райчонак паспела арганізаваць каля двух дзясяткаў пленэраў. Апошні быў прысвечаны творчасці Рыгора Барадуліна, папярэднія — літаратурнай дзейнасці Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча.

Усе вядомыя беларускія мастакі, пісьменнікі, паэты лічаць за гонар наведаць Германавічы, папрацаваць у творчых майстэрнях разам з таленавітымі шаркоўшчынскімі дзеткамі. Дзякуючы пленэрам у музеі з'явілася больш за 100 карцінаў. Сюды з'язджаюцца людзі з усёй Віцебшчыны на літаратурныя гасцёўні, сустрэчы, семінары. Не забываецца Ада Эльеўна і пра родную школу. Ужо 2 гады кожны выпускнік атрымлівае ад Культурна-адукацыйнага цэнтру Драздовіча кашулькі з гісторыяй мястэчка Германавічы. Каб памяталі пра свае карані.

Ада Эльеўна з мужам і сынам таксама маюць адзіную ў гэтай мясцовасці фермерскую гаспадарку — 60 гектараў зямлі ў арэндзе, два трактары, камбайн. На іх вырошчваюць моркву, капусту, рапс. Гадуюць свіней, кароў. Падчас мастацкіх пленэраў гаспадыня корміць усіх удзельнікаў сваёй бульбай і малаком.

У вольны час яна выдае газету «Бацькаўшчына», займаецца краязнаўствам, палітыкай, унукамі, арганізуе мастацкія выставы ў Віцебску, Мінску. Яна ўжо выкупіла і прыводзіць у належны стан сядзібу сусветна вядомага селекцыянера Івана Сікоры. Марыць захаваць у Лужках памяць пра Элізэра Бэн-Егуду (Элі Пэральмана). Менавіта ён адрадзіў адну са старэйшых моваў свету, мову Старога Запавету. Былая мёртвая мова загучала цяпер па ўсім свеце, стала дзяржаўнай у Ізраілі, дзякуючы земляку — летуценніку з Лужкоў. «Галоўнае — я раблю беларускую справу», — адзначае Ада Эльеўна.



«І ў правінцыі ўсё можна пераадолець, калі там жыве Адольеўна», — кажуць людзі.

Кінарэжысёр Уладзімір Колас зняў фільм пра Аду Райчонак, самую вядомую грамадскую дзяячку на Шаркоўшчыне. 26 сакавіка стужку «Галерэя Ады» паказалі на тэлеканале «Белсат». Цікавасць да стужкі выказалі кампаніі больш чым 10 еўрапейскіх дзяржаваў, а таксама катарскі канал «Аль-Джазіра». Карціна створана намаганнямі студыі «Эверэст», тэлеканала «Белсат» пры падтрымцы Еўрапейскага інстытута кіно. Фільм атрымаў галоўную ўзнагароду на VIII Міжнародным фестывалі крэатыўных дакументальных фільмаў «Escales Dokumentaire» у французскім горадзе Ля-Рашэль.

Фільм атрымаўся надзвычай рэалістычны. Жыццё ў беларускай глыбінцы, паказанае праз лёс Ады Райчонак, былога вязня Віцебскага гета, колішняй вясковай настаўніцы, стала нагодай для глыбокага роздуму аб лёсе сучаснай вёскі і асобы ў цяперашняй Беларусі.

Уладзімер Колас перакананы: такія асобы заслужылі права, каб пра іх даведаліся людзі і ў іншых кутках свету. «Гэта ўнікальная з'ява для Беларусі: у сваёй вёсцы яна заснавала мастацкую галерэю і цяпер запрашае мастакоў з усёй Беларусі. І, дарэчы, не толькі з Беларусі пачынаюць да яе ездзіць на пленэры. Вось яна такая — яна маці пленэраў. Калі мы прыехалі і пачалі працаваць над гэтым праектам, то столькі даведаліся, столькі ўбачылі, што, безумоўна, гэта не для аднаго фільма!»

Сама спадарыня Ада да свайго ўдзелу ў кінаэксперыменце паставілася самакрытычна: «Я вельмі хвалююся. Бо, ведаеце, нам ніколі не даводзілася на пленэрах супрацоўнічаць з кіношнікамі. Гэта было, з аднаго боку, і вельмі цікава, але і вельмі нязвыкла. Я надзвычай удзячная Уладзіміру Коласу, што ён усё ж увекавечыў нашы старадаўнія Германавічы».

Сапраўды, жыхары Германавічаў — галоўныя героі фільма. Простыя людзі са складанымі лёсамі на некалькі

тыдняў «пасунуліся» да высокага, да мастацтва. Генадзь Бураўкін і Ада Райчонак заканчвалі адну школу. Цяпер Генадзь Мікалаевіч адкрыў у ёй новы талент: «Хачу Аду па-зямляцку пахваліць. Я глядзеў на яе і зразумеў: яна ж бліскучая актрыса! Паверце майму кінематаграфічнаму вопыту. Паглядзіце, як яна ідзе, які ў яе позірк. Гэта тое, што даецца нават не ўсім акторам. Вельмі добра, што не проста характар адлюстраваны, а лёс!»

Сама Ада Райчонак так тлумачыць, чаму спалучыла будзённасць з духоўнасцю: «Жывём мы на вёсцы, і не бачым хараства — таго, якое вакол нас. І таму я веру: тая справа, якую я раблю, некалі павінна адпаведным чынам паўздзейнічаць на людзей. Зразумеюць людзі мяне. Мы павінны стаць лепшымі».

***Падрыхтавала Эла Дзвінская***
***па матэрыялах друку***





# За мужнасць і прагу да волі

**19** ***чэрвеня ў Быках каля сядзібы Дома-музея адбыліся ўрачыстасці з нагоды 87-й гадавіны з Дня нараджэння Васіля Быкава.***

У гэтым годзе на святкаванні прыбыла вялікая колькасць людзей з Віцебска, Полацка, Магілёва, Мінска. Сярод прысутных былі пісьменнікі В. Якавенка і У. Содаль, А. Фядута, рэжысёры Ю. Хашчавацкі і В. Мазынскі і іншыя.

«Васіль Быкаў геніяльны сваёй праўдзівасцю, нязломнасцю», — адзначыў, адкрываючы мерапрыемствы, старшыня Віцебскай філіі ТБМ Іосіф Адамавіч Навумчык. Свае творы, прысвечаныя Васілю Быкаву, прачыталі М. Міранові́ч, Л. Сіманёнак, К. Севярынец. Сястра пісьменніка Валянціна Уладзіміраўна з цяплом узгадала дзіцячыя, юнацкія і ваенныя гады ў лёсе яе брата.

Штогадовая прэмія **«За свабоду думкі»,** заснаваная Рухам «За Свабоду», была ўручана паэту, грамадскаму дзеячу Уладзіміру Някляеву. Заснавальнік прэміі Аляксандр Мілінкевіч заўважыў, што Уладзімір Някляеў аднадушны Васілю Быкаву сваёй прагай да праўды і волі, стойкасцю, мужнасцю. Кандыдата на прэмію вызначала група папярэдніх лаўрэатаў.

«Я настойвала на тым, каб сёлетняя прэмія была ўручана менавіта Уладзіміру Пракопавічу, — адзначыла кіраўніца культурна-адукацыйнага цэнтра імя Язэпа Драздовіча Ада Эльеўна Райчонак. — Я вельмі даўно яго ведаю і шаную. Ён неаднаразова прыязджаў у Бычкі на мастацкія пленэры, чытаў свае вершы».

Уладзімір Някляеў прыгадаў сваю апошнюю сустрэчу з Васілём Быкавым: «Не ўспамінаецца драбязы, от нічога не было дробязнага. Ад самага пачатку і да нашай апошняй су-



стрэчы ў шпіталі, за тры дні, як яго не стала. Я ішоў туды, не ведаючы, з чым прыйсці, — гэта зноў жа адносіны з Быкавым! Гэтыя адносіны прымусілі мяне падумаць аб тым, а з чым я зараз прыйду да чалавека, які сам ведае, што яго хутка не стане. Што каштоўнае насамрэч у гэтым свеце? Усё становіцца на свае месцы на такіх вось «Быкаўскіх» рубяжах. Гэта чалавек, які ўсё сваё жыццё прастаяў на рубяжах…»

На сустрэчу Някляеў прыйшоў з суніцамі і белай ружай. Сімвал, што звязваў пісьменнікаў пэўнымі ўспамінамі. «Ніякавата таптаўся перад тым, як увайсці ў палату, зноў жа — што сказаць? З жахам думаў, як я вярнуўся з Хельсінкі, з Фінляндыі, дзе жыў у кватэрцы, якую да мяне паўтара гады займаў Васіль Быкаў. Павітаўся, аддаў яму сунічкі, Ірына Міхайлаўна забрала ружу. І ён, надкусваючы сунічку, сказаў: «Я вось падумаў, а што ў жыцці трэба чалавеку? Само жыццё, адна жанчына і адна кветка…» Ён не патрабаваў ад жыцця шмат, у тым сэнсе, як гэтага патрабуе большасць людзей, — грошай, лепшай ежы, лепшай адзежы. Ён патрабаваў таго, чаго патрабуе толькі высокі духам чалавек, — сапраўднага напаўнення жыцця жыццём».

Пісьменнік Уладзімір Арлоў узгадаў некалькі значных гісторый:

— У 1997 годзе, калі мяне звольнілі з выдавецтва «Мастацкая літаратура» за «напісанне гістарычнай і іншай сумнеўнай літаратуры», Уладзімір Някляеў узяў мяне працаваць у часопіс «Крыніца», які я лічу адным з лепшых культуралагічных выданняў XX стагоддзя. У гэтай моцнай рэдакцыі ў той час гуртаваліся А. Разанаў, Л. Драньusers-Майсюк, В. Акудовіч і іншыя. Я стаў весці ў ёй рубрыку «Наш», у якой распавядаў пра лёсы дзеячаў культуры Беларусі, якія жылі і працавалі ў замежжы. Большасць з тых асобаў увайшлі потым у кнігу «Імёны Свабоды». Рэдактару патэлефанавалі зверху і зрабілі вымову за тое, што часопіс піша пра «калабарантаў» і «ворагаў». Някляеў выклікаў мяне да сябе.

«Валодзя, вось такая справа, — сказаў ён, — я табе давяраю, але ты падумай». Праз некалькі дзён я прынёс яму 2 артыкула мужа І. Сурвілы Янкі Сурвілы і паклаў яму на стол, і ён тут жа падпісаў іх у друк.

У 2011 годзе, калі Уладзімір Някляеў быў пад хатнім арыштам пасля Плошчы, — працягваў Уладзімір Арлоў, — яго кнігі зніклі з кнігарняў, таму мы іх паціху распаўсюджвалі з аўтографам аўтара. Ён дома іх падпісваў, і жонка, сп. Вольга, нам іх перадавала. Але для чытачоў мы прыдумалі захапляльныя гісторыі, быццам аўтар па вяроўцы спускаецца ўначы ўніз, пераапрануты ў іншае адзенне, як французскі кароль, і падпісвае кнігі.

З Васілём Быкавым мы неаднойчы сустракаліся. Ён быў крыху замкнёны. Таму з ім было добра маўчаць. Ягонае маўчанне было важкім, шматслойным. Упершыню я ўбачыў яго на Рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў у 1981 годзе. Тады партыйны функцыянер вучыў пісьменнікаў, як трэба пісаць, а Быкаў гэтую ідэалогію не прымаў. Пазней мы шмат разоў сустракаліся на Беларусі. Два разы мы выступалі з ім у Берліне на літаратурных чытаннях. На развітанне, па тэлефоне ён сказаў мне словы, якімі заканчваецца кніга «Доўгая дарога дадому»: «Логас мой песімістычны, але душа мая прагне аптымізму».

Як некалі пісала вялікая Леся Украінка: «Без надзеі такі спадзяюся».

«Свабода — найбольшая маральна-фізічная каштоўнасць, дадзеная кожнай жывой істоце фактам яе нараджэння, — пісаў Васіль Быкаў. Усё жывое карыстаецца той каштоўнасцю, наколькі гэта мажліва ў складаным, заблытаным свеце арганічнага існавання… Мабыць, кожнаму свой шлях да свабоды наканавана прайсці асобна».

Пасля заканчэння цырымоніі выступіў жаночы гурт «Індра» і бард Зміцер Бартосік. Прагучалі песні на вершы Я. Купалы, Р. Барадуліна. Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Ю. Губарэвіч узнагародзіў прызамі пераможцаў творчага конкурсу «Страху няма».

Інфармацыйнае забеспячэнне вандроўкі падрыхтаваў старшыня Таварыства аховы помнікаў Антось Астаповіч і краязнаўца Алесь Галіч. Пераможцы і ўдзельнікі віктарыны, прысвечанай жыццю і творчасці В. Быкава, атрымалі дыскі з фільмамі з серыі «Волаты беларускай літаратуры».

***Вольга Хвоін, Эла Дзвінская***



Беларусь — краіна еўрапейскай гісторыі і культуры



***Даўным-даўно адзін з каралёў Брытаніі, састарэўшы і стаміўшыся быць каралём, вырашыў скінуць са сваіх плячэй цяжар улады і падзяліць каралеўства на тры часткі паміж трыма дочкамі, адну з якіх, Кардэлію, у апошні момант абдзяліў. Дзякуючы геніяльным фантазіям Шэкспіра, увесь свет ведае пра тое, што сталася далей…***

Значна менш, чым прыдуманая легенда пра ўладара Брытаніі караля Ліра, вядома свету рэальная гісторыя пра ўладара Вялікага Княства Літоўскага Гедзіміна, які, састарэўшы, вырашыў падзяліць паміж сямю сынамі найбагацейшыя гарады сваёй дзяржавы. Двух са сваіх семярых сыноў, у тым ліку Альгерда, вялікі князь абдзяліў.

Па смерці Гедзіміна Альгерд, якому дасталася Крэва, рушыў вайной на брата свайго Еўнута, адабраў у яго вялікакняжацкі вянец, перададзены па спадчыне, і з дапамогай другога свайго брата, Кейстута, сам стаў вялікім князем.

Пад рэшткамі замкавых сцен, на руінах нашай гісторыі прайшло маё дзяцінства. Адсюль я — беларус. Нацыянальнасць — не запіс у пашпарце, а мова, гісторыя і культура, да якіх ты належыш.

Хоць бацька мой, Пракоп Міхайлавіч Някляеў, ва ўсім рускі чалавек (родам ён з Волгі), з неабдымнымі, як прыволжскія стэпы, памкненнямі і стыхійным, так да скону і не ўтаймаваным характарам. На вайне яго, цяжка параненага і кантужанага, нават закапалі былі ў магілу, але ён і ў магіле



выжыў. У 1945 годзе, калі адваяваў, яго не адпусцілі на Волгу, а накіравалі ў Заходнюю Беларусь. Тут лёс і звёў яго з маёй маці, так што я ў нейкім сэнсе — вынік вайны, таму і напісаў у адной з першых сваіх паэм: *«Сутыкненне нацый і народаў вырашала, быць мне ці не быць…»*

Маці, Настасся Іванаўна Магер, вечная працаўніца, ціхая верніца. Калі бацьку я помню з пісталетам у руках, з якога, ледзь што не па ім, ён пачынаў страляць ва ўсе бакі, дык маці — са Святым Пісаннем, з малітваю перад абразом: «Даруй, Божа, пасланаму Табой мужу майму…»

Так і вырас, так, паміж пісталетам і абразом, і прайшло дзяцінства. Амаль усё, што мной напісана, адтуль.

## Цяпер твае вочы будуць маімі

Чытаць я навучыўся недзе гадоў у пяць, і не па буквары, а па Бібліі. Мой дзед Ясь — Іван Маркавіч Магер, якога дасюль у Крэве згадваюць як святога, аслаб на вочы і ўжо не бачыў літар Святога Пісання. «Цяпер твае вочы будуць маімі», — сказаў ён аднойчы і стаў вучыць мяне грамаце. Літары ў нас называліся *А*грэст, *Г*урок, *П*арэчка, *Я*блык, *Б*ульба, *М*орква, *Ш*чаўе, *К*арова, *С*віння, *Ц*ялушка, яны «раслі» ў садзе і на агародзе, мыкалі і рохкалі ў хляву. І штовечар дзеду, заікаючыся і ад няўмення, і ад намагання хоць неяк спасцігнуць тое, што напісана, чытаў: «Слово в начале было у Бога и само было Бог».

Не надта любячы Саветы, якія яго раскулачылі, адабралі зямлю, лес, тартак і зрабілі амаль жабраком, дзед Ясь у вайну хаваў у сваёй хаце савецкага афіцэра, габрэя ды яшчэ і камісара. Знайшоў яго, усяго ў крыві, у яме, дзе буртавалася бульба. Сказаў жонцы, дачцэ і тром сынам: «Бог паслаў да нас чалавека, каб мы яго выратавалі…» Немцы, калі б дазналіся, адразу б іх павесілі б за гэта.

У першы клас я пайшоў у Крэве, у другі — у Смаргоні. Скончыўшы сёмы, захацеў стаць геолагам: вандроўкі, намёты, касцёр, гітара — рамантыка. У чатырнаццаць гадоў паехаў у Кіеў «паступаць на геолага», дзе драматычна за-

кахаўся. Бялявенькая такая, яснавокая... Не помню, як яе звалі, але помню, як мяне праз яе білі пяцёра таксама закаханых у яе хлопцаў, з якімі жыў у адным інтэрнацкім пакоі. Каб раскахаў... Справіцца з імі мне было не па сіле, паскардзіцца не дазваляў характар. Трываў, колькі мог. Аднойчы закашляўся — на насоўцы з'явілася кроў. Ну, думаю, рамантыка рамантыкай, каханне каханнем, а жыццё даражэй. Бывай, бялявая! Дый экзамены паздаваў абы-як, бо не да іх было. Не паклалася перада мной сцяжына, па якой можна было б прайсці ў геолагі. Не лёс.

Праз два гады падаўся вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка, не стаўшы перад тым ні ветэрынарам, як бацька хацеў, ні музыкам, як жадала маці. Хоць яна і ўгаварыла бацьку прадаць карову і купіць мне акардэон.

Але і радыёмеханіка з мяне не атрымалася. Законы, па якіх бяжыць ток па электраланцугах, аказаліся неспасцігальнымі. Пасля трэцяга курса вярнуўся дадому, сказаў: «Усё. Не маё». Маці ў плач: «Сынок, ты ўжо хоць дзе-небудзь давучыся, людзі ж думаюць, што адусюль цябе выганяюць. З хаты на вуліцу не выйсці...»

Каб маці магла выходзіць на вуліцу, паехаў давучвацца. А як давучыцца, калі не цяміш, якую навуку спасцігаеш?

Перад зімовай сесіяй купіў кнігу Альберта Эйнштэйна, нават не ведаючы, навошта. І раптам чытаю, як Эйнштэйн прызнаецца: вось усе кажуць, што я геній, тэорыю адноснасці прыдумаў і ўсялякае такое, а я, па праўдзе сказаць, дагэтуль не ведаю, чаму электрычная лямпачка гарыць.

Раблю ў кнізе закладку і іду з «Эйнштэйнам» здаваць экзамен па спецыялізацыі. Шэры зімовы ранак, у аўдыторыі гараць лямпачкі. Бяру экзаменацыйны білет і, нават не чытаючы прапанаваных мне пытанняў, вяртаю білет выкладчыку. Кажу: у вучэльні вашай я выпадкова, зараз вы паставіце двойку, станеце мяне выганяць, і гэта будзе справядліва. Але, каб усё ж хоць нешта талковае я вынес адсюль, растлумачце вы мне на развітанне, чаму гарыць электрычная лямпачка. Давай мне выкладчык распавядаць, як адзін электрон штурхае другі электрон, а другі — трэці і гэтак далей. Я ўважліва слухаю, галавой ківаю. Дзякую за тлумачэнні і кладу на сваю заліковую



кніжку разгорнутую кнігу Эйнштэйна — маўляў, а вось ён не ведаў.

Прозвішча выкладчыка было Дубко, але дубам ён зусім не быў. Выпускнік прэстыжнага «баўманскага» інстытута, ён ацаніў мой, як сёння б гэта назвалі, перфоманс і даў магчымасць скончыць электратэхнікум сувязі.

З дыпломам маладога спецыяліста я апынуўся спачатку на Далёкім Усходзе, пасля — у Сібіры і на Поўначы. З гэтымі маімі інстытутамі, з іх хоць і кароткімі, але насычанымі праграмамі, не параўнаць аніякія іншыя. Ва ўсякім выпадку, не параўнаць з імі ні педагагічны, ні літаратурны інстытуты, адзін з якіх я скончыў, а другі, зноў жа, не.

## Чаму гарыць электрычная лямпачка

Першая мая кніга павінна была выйсці на рускай мове, калі я вучыўся ў Літаратурным інстытуце. Свет яна не пабачыла: я забраў рукапіс з маскоўскага выдавецтва «Молодая гвардия». На мяне там глядзелі як на вар'ята, але я ведаў, што рабіў: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» паабяцалі выдаць мае беларускія вершы. У выбары не сумняваўся.

Прыехаў з Масквы ў Мінск падпісваць дамову, а мне паказалі адмоўную (так званую «закрытую») рэцэнзію на чатырох аркушах. Зваротная старонка апошняга аркуша была ў плямінах ад сала, са слядамі нажа і пахла цыбуляй — пілі, закусвалі, пасцяліўшы на рэдакцыйным стале газету, пад якую падклалі тое, што трапіла пад руку, каб стол не парэзаць.

Урэшце кніга выйшла, хоць і са змененай назвай (не маёй, а выдавецкай). Выйшла найперш намаганнямі Барадуліна, які падключыў да гэтага, як цяжкую артылерыю, Куляшова з Панчанкам — народных паэтаў, якія мелі вагу і моц.

Неяк праглядаў сваю першую кнігу і стараўся зразумець: з чаго маглі ўзнікнуць праз гэтыя вершы хоць нейкія праблемы? Так і не зразумеў.

Я і зараз шмат чаго не разумею, таму займаюся, займаюся і займаюся літаратурай. Бо толькі праз яе (праз мастацтва

наогул) і яшчэ праз Бога (праз веру) можна нешта ўцяміць у гэтым свеце, хоць крышку наблізіцца да ўсведамлення таго, дзеля чаго ты тузаешся ў жыцці.

Калі сказаць, што няма і не можа быць з гэтага тузання ніякага выніку, гэта будзе праўдай, але нейкай надта ўжо абсалютнай, касмічнай, па-за межамі разумення. Таму, можа, і пілуем мы, рэжам, трушчым неймаверную праўду на меншыя, маленькія і маленечкія (кожны на свае) праўдачкі. Здавалася б, з іх, няхай і маленькіх, але бясконцых у сваёй колькасці, ужо даўно павінна была б скласціся нейкая адна вялікая праўда, а яна не складваецца, не складваецца… Ці нечакана для ўсіх і кожнага, раптам склаўшыся, зноў рассыпаецца. Бо не можа быць праўдзівым малюнак, складзены з кубікаў. Тым больш, што ўсе ведаюць: на кожным баку кубіка — фрагменты розных малюнкаў.

І ўсё ж менавіта мастацтва здолела больш-менш праўдзіва накідаць абрысы свету, у якім няма адной праўды для ўсіх. І найперш гэта здолела зрабіць літаратура, якую не цікавіць, чаму гарыць электрычная лямпачка. Тая літаратура, у якой я пачынаў, — савецкая імперская літаратура — скончылася. Яна патанула, як «Тытанік». Лёс тых, хто знік у акіяне разам з караблём, трагічны. Але ці не горшая, бо самотная, доля тых, хто застаўся на беразе? Мы чыталі вершы на стадыёнах, друкаваліся ў часопісах з мільённымі накладамі, і мільёны хацелі быць падобнымі на нас, паэтаў. На каго яны хочуць быць падобнымі сёння?..

Парадаксальная праўда ў тым, што і на стадыёнах, і ў часопісах мы ўсё зрабілі для таго, каб ні стадыёнаў, ні часопісаў у нас не стала. Сёння літаратура не большая, але і не меншая за сябе і займае тое месца, якое займае. З ім можна звыкнуцца, калі пісаць і пісаць, а не ўспамінаць і ўспамінаць…

*Калі пісаць, дык толькі так пісаць,*
*Як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай,*
*Як з вены ў вену кроў пераліваць…*
*Пісаць, як спавядацца і маліцца.*



## Адно — падумаць, іншае — зрабіць

«Калі ты не займаешся палітыкай, дык яна зоймецца табой…» Мной яна ўпершыню (шчыльна, каб адчуў) занялася ў сярэдзіне 70-х.

Набліжаўся чарговы з'езд КПСС. Мяне выклікалі ў Маскву ў ЦК камсамола: «Ты выбраны з усіх паэтаў Савецкага Саюза, каб напісаць прывітанне з'езду ад савецкай моладзі».

Пытацца «чаму я?» не выпадала. «Дзякуй за гонар». Сапраўды ж, адзін з усіх. Напісаў і паехаў у Мінск. Праз месяц зноў выклікаюць: «Твае вершы зацверджаны ў ЦК КПСС. Ты выбраны з усіх, каб прачытаць з трыбуны з'езду».

Да канца эпохі Брэжнева заставалася чатыры гады. Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК. У грамадстве, не для ўсіх прыкметны, блукаў прывід таго, што пасля назвалася перабудовай. І ў гэткі час мне чытаць на ўсю краіну: «Плыви, страна, эпохи ледокол!»

Кожнаму чалавеку жыццё дае шанц на выйгрыш: некаму — выйграць грошы, некаму — лёс. Калі шанц вялікі, дык ён, звычайна, адзін, але многія людзі, мяркуючы, што шанц гэты не апошні, прапускаюць яго. Мой шанц выглядаў як лёс. І, у соты раз падумаўшы, я вырашыў не прапусціць яго і сказаць не пра тую краіну, якая плыве, а пра тую, што патанае. Прыкінуў: расстраляць мяне наўрад ці расстраляюць — часы ўсё ж не сталінскія. Канешне, пасадзяць, але шанц таго варты…

Ды адно — падумаць, і зусім іншае — зрабіць. Не змог. У апошні момант не знайшлося сілы, мужнасці. І не толькі таму, што на крамлёўскую сцэну, якую ў тры шэрагі атачвала ахова, мяне выпусцілі не ў прызначаны час, а гадзіны на паўтары пазней, нібы нешта западозрылі. І не таму, што папярэдзілі, каб не надта хваляваўся, чытаючы, — усё адно пойдзе фанаграма, запісаная на Шабалаўцы. Якая розніца, пачулі б мяне ці не? Проста не здолеў, не хапіла мяне на гэта. Выйшаў: «Плыви, страна, эпохи ледокол!» І вяла запляскалі ў далоні Брэжнеў, Суслаў, Гарбачоў…

Я не быў тады (і нават не меркаваў, што буду) дысідэнтам, не збіраўся выступаць (беларускі савецкі паэт) супраць савецкай улады. Мяне не задавальнялі ў ёй канкрэтныя асобы і, адпаведна, іх канкрэтныя дзеянні.

Гэткай матывацыі аказалася недастаткова, каб з разлікам, запланавана здзейсніць тое, на што здольны толькі апантаныя людзі.

Шкадаваць позна, а прызнацца — не, хай яно і без патрэбы.

Я не мог дапусціць, каб тое, што некалі адбывалася са мной на імперскай сцэне Савецкага Саюза, праз паўжыцця паўтарылася на местачковай сцэне на ўзроўні фарсу. Хоць і на крамлёўскай сцэне, зразумела, была не высокая трагедыя, але ўсё ж…

## Бог не дазволіў саграшыць перад Крэвам

Наўрад ці хто-небудзь чуў, каб я жаліўся на жыццё. Некалькі разоў яно падломвалася, дык што ж? Бацькі мае жылі куды цяжэй, не жалячыся. І ніколі, і нічога, малячыся, маці ў Бога не прасіла. Толькі дзякавала, толькі дзякавала…

У кнізе «Так», напісанай у Польшчы і Фінляндыі, дзе мне не надта хацелася быць, я вынес на вокладку радкі з паэмы «Ложак для пчалы», самай беларускай з усіх напісаных мной паэм:

*…Як смерць, бялее маці,*
*Кажа маці: «Не прасі.*
*Ані каліва якога,*
*Ні свайго і ні чужога,*
*Як бы ты ні бедаваў,*
*Не прасі нічога ў Бога —*
*Ён і так табе ўсё даў…»*

Паэма гэтая маці і прысвечана. У гэтай жа кнізе — прысвячэнні жанчынам, якіх кахаў. Нябесныя жанчыны. Я не варты ніводнай з іх.



Апроч кахання, сям'і, сяброў, Бог даў яшчэ і занятак, які па мне, — паэзію. Хоць доўгі час, даволі жорстка ацэньваючы сябе і самому сабе не давяраючы *(«Нібыта ўвайшоў без білета туды, дзе спытаюць білет…»)*, я і Богу не давяраў — а раптам Ён памыліўся? І толькі пасля трэцяй ці чацвёртай кнігі ці нават пасля пятай, пасля «Прошчы», я падумаў, што, магчыма, і не сталася памылкі на нябёсах. А калі сталася, дык невялікая. Такая, якую можна выправіць на зямлі.

…Я рабіў некалькі спроб (даруй, Божа!) пакінуць зямлю. Бог не даў мне гэтага здзейсніць. Не дазволіў саграшыць перад Крэвам, перад продкамі, перад маці, а ў першую чаргу — перад Ім. Каб я ўрэшце ўцяміў:

*Ува ўсім, што ёсць, было і будзе —*
*Ані ў чым цябе магло не быць.*
*Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе:*
*Уневерагодным цудзе*
*Жыць.*

***Гутарыў Аляксандр Тамковіч,***
***поўны тэкст у кнізе «Лёсы»***

## Вяртанне

Пагадзіцеся, пісаць традыцыйны нарыс пра аднаго з лепшых паэтаў сучаснасці з майго боку было б, мякка кажучы, неэтычна, таму аддаць перавагу было вырашана жанру інтэрв'ю. У сітуацыі, калі асоба Уладзіміра Някляева знаходзіцца ў фокусе грамадскай увагі — найлепшы выбар.

**— Старая, як свет, праблема: паэт і цар. У нашым выпадку — паэт і дыктатар. У розныя часы розныя паэты вырашалі праблему кожны па-свойму. Паколькі праблема ўяўляла небяспеку, то вырашалася ў пераважнай большасці выпадкаў ці бесканфліктна, ці так, што канфлікт не выяўляўся. Заставаўся ўнутры…**

— І ставаў прычынай маральных праблем. Зразумела, для паэтаў. Цары, а тым больш дыктатары, маральнымі праблемамі не абцяжараныя.

Я таксама спрабаваў вырашыць праблему, якая для мяне палягае ў тым, што беларуская дыктатура руйнуе нацыянальную культуру, бесканфліктна. Праз спробу акультурыць уладу, зрабіць на ўладным дрэве нацыянальны прышчэп. Не выйшла. Не прышчапілася. Ступень унутранага адчужэння, адпрэчвання нацыянальнай культуры аказалася большай за знешнія выявы беларускасці, якія дэманструе ўлада. Найперш — яе персаніфікаваны носьбіт.

**— І тады, калі не выйшла бесканфліктна вырашыць праблему, Вы пайшлі на канфлікт?**

— На канфлікт пайшла ўлада, якая вырашыла завербаваць мяне ў сваю ідэалагічную абслугу. Напачатку, дарэчы, таксама бесканфліктна. Праз подкуп. Чым толькі ні спакушалі… Між іншым, калі цябе спакушаюць, утрываць, не паддацца не прасцей, чым тады, калі цябе б'юць, катуюць. З уласнага досведу магу сказаць, што ў нечым нават складаней…

А пасля пачаўся ціск. Гэтакі, што, маральна яшчэ трываючы, я не вытрываў фізічна, упершыню ў жыцці займеўшы сур'ёзныя праблемы са здароўем. Патрапіў у шпіталь, у якім мне сказалі, што наўрад ці ўстану. Я ўстаў. І ўзяў тайм-аут. З'ехаў за мяжу, дзе заняўся тым, чым заняцца дома не меў магчымасці, — літаратурай.

**— Напрыканцы XX стагоддзя і на пачатку стагоддзя XXI Вы стварылі ў замежжы значныя для беларускай літаратуры творы. Паэмы «Паланэз», «Ложак для пчалы», драму «Армагедон», раманы «Лабух», «Вяртанне Веры». Вам там добра пісалася, і мы тут перакананыя былі, што ў Беларусь Вы пры гэтай уладзе не вернецеся. А Вы вярнуліся. Чаму?**

— Таму што настальгія — пачуццё не прыдуманае. Яно рэальна існуе. Можна, канешне, жыць і з ім, гэта не хвароба, ад якой паміраюць, але…



Але паміраў Васіль Быкаў, і я не мог не прыехаць, каб развітацца. У нас няпростыя былі адносіны… Я прыйшоў да яго, мы доўга размаўлялі — і раптам ён папрасіў мяне прывезці з Фінляндыі камень на ягоную магілу.

Гэтая апошняя просьба Быкава, апошняя воля ягоная дасюль для мяне загадкавая. Тым не менш праз год я фінскі камень прывёз. І з тым каменем застаўся.

**— Дык Вы вярнуліся праз Быкава?**

— Не толькі і не столькі… Гэта такое літаратурнае вяртанне. Я пісаў за мяжой сапраўды шмат, і пісаў з асалодай, але ўсё часцей задаваў сабе пытанне: а хто тое, што я напісаў, будзе чытаць? Як і тое, што напісалі Быкаў, Купала, Чорны, Караткевіч, Барадулін, Бураўкін, Казько… Калі мова, на якой мы пішам, знікае. Калі сёння беларусы яе ўжо амаль не ведаюць, а заўтра не будуць ведаць зусім. І з нацыянальнай мовай знікне нацыянальная культура, а з культурай — нацыя. Бо нацыянальнасць — гэта не кроў, а культура, у якой ты выхаваны. І калі яна цябе выхавала, дык яна і змушае цябе за яе змагацца. Гэта натуральна, гэта ў суладдзі з прыродай усяго існага. Гэтак спачатку маці змагаецца за тое, каб жыло дзіця, а пасля дзіця змагаецца за тое, каб жыла маці. Ненатуральна адносіцца да гэтага інакш. Скажам, грэбаваць маці сваёй праз тое, што яна вясковая і размаўляе не так прыгожа, як суседка. Тую суседку, між іншым, маці твая некалі і чытаць, і пісаць вучыла, а цяпер суседка кажа, што ў яе культура сусветная, а ў маці — местачковая. Бо маці «*апрель*» «красавіком» называе — і «р» у яе зацвярдзелае.

**— Гэта зразумела. Небяспекай знікнення беларускасці заклапочаныя амаль усе пісьменнікі, але далёка не ўсе яны ідуць, умоўна кажучы, на барыкады. Мяне цікавіць: чаму і як у Някляеве паэзію замяніла палітыка?**

— Я вам якраз пра тое і распавядаю, вы даслухайце… Беларусь — краіна еўрапейскай гісторыі і культуры. Адсюль Сімяон Полацкі паехаў у Маскву царскіх дзяцей азбуцы вучыць. Адсюль у Маскву першую кнігу прывезлі. Адсюль культура ішла на ўсход, а не наадварот. У тым ліку культура

палітычныя, бо менавіта тут быў напісаны Статут Вялікага Княства Літоўскага, які стаў узорам для канстытуцый большасці еўрапейскіх краін.

Гэта і ёсць падмурак нашага Адраджэння, на ім і павінна паўстаць новая Беларусь.

Страціўшы нацыянальную мову, нацыянальную культуру, нацыянальную гісторыю, памяць, мы страцім саміх сябе, падменім сябе іншымі. Мы будзем — і ў той жа час нас не будзе. Калі я думаю пра такую будучыню, дык адчуванне, нібы сэрца вырываюць. І я пытаюся: а для чаго мне на беларускай зямлі нешта без Беларусі? Хоць што! Навошта нас, як у «Слове аб палку Ігаравым» сказана, снапамі сцялілі, малацілі на Нямізе? Каб цяпер на Нямізе гаражы былі?..

Айчыну можна страціць па-рознаму. Напрыклад, у эміграцыі. Але найстрашней страціць айчыну ў Айчыне. Гэта найвялікшая страта з усіх страт, якія могуць быць, гэтага ні ў якім разе нельга дапусціць — а як? Толькі змяніўшы сістэму, якая гэта дапускае…

Вось чаму паэзію замяніла, як вы сказалі, палітыка. Я толькі ўдакладню: не замяніла палітыка паэзію, а дадалася да яе. Спадзяюся, не па скон жыцця, на нейкі час.

***Гутарыў Аляксандр Тамковіч***

# На беразе жывой ракі

## Полацкі менталітэт

*Уладзіміру Арлову*

Ёсць Полацкі менталітэт —
Ад Ефрасінні, ад Скарыны,
Ад той абрынутай адрыны,
Дзе сон шукаў свой сонны след.

Ён цемры пазычаў свята,
Каб стала вечнасцю імгненне,
Ляцеў вышэй жаўрук здзіўлення,
Люцела рупнасці пчала.

Ад Полацка пачаўся свет,
Пра небачолых кажам:
З нашых!
Ёсць Беларусь,
А гэта значыць —
Ёсць полацкі менталітэт!

***Рыгор Барадулін***



## Ліст шэсцьдзесят сёмы з Мінску ў Нямеччыну

Дзе радзіма думак нашых душ?
Думкі й душы —
зорныя блуканкі.
Хмары —
Небастрэхіх хатаў ганкі,
Спатыкнуцца мусіць, хто нядуж.

Асмялець пагрукацца ўначы
У зачыненыя дзверы Кону.
Рупнасць рада нагадацца плёну.
Добра сну ў анёла на плячы.

Думкаю празорыцца душа.
Думка заручаецца душою,
Яснасць,
Ахінуўшыся імжою,
П'е нагбом
У ісціны з каўша.

***Рыгор Барадулін***

* * *
Будуць часам ідалы раструшчаны.
Свет разумны стоміцца ад крыкаў.
Васільком у жыце Беларушчыны
Назаўсёды застанецца Быкаў!

***Рыгор Барадулін***

**Ён недзе тут…**
**І ява ясная і цуд!..**

Ён недзе тут. Ну так, ён недзе тут.
Ён побач, поплеч ён, ён з намі —
Знаёмымі, сябрамі і сынамі,
З Ірынаю сваёй, сваёй краінай,
Па-летняму то светлай, то журлівай.

Вы кажаце пра той апошні шлях,
Пра тыя смутак, боль і жах.
Вы кажаце: вяртаўся ён дадому,
Дадому нёс свае любоў і стому.
Ды кажаце, сустрэў яго не дом,
А дол яго прыняў, халодны дол.

Вы кажаце: вяртаюцца здалёку,
А не вяртаюцца зглыбоку і са змроку,
Ды ён не там, дзе змрок, дзе тлен і тло.
Ён тут, дзе дух жывы, дзе рух і дзе святло.

Не, ён не там, ён недзе тут, ён з намі.
Такі, якім яго мы зналі,
Якім мы бачылі яго і чулі,
Якога не ўзялі асколкі, кулі,
Агонь пякельны і сыры акоп,
А потым — шальмаванне і паклёп.



Ён тут. Хаця яшчэ ў сорак чацвёртым
Яго ўжо абвяшчалі мёртвым.
Ды ён ажыў і ўваскрашаў другіх
Вадою жыватворнай сваіх кніг.

Не, ён не там, ён тут, ён з намі,
Такі ж, якім яго мы зналі,—
Суровы і прыветны, ветлы,
Пахмурны, змрочны крыху ды і светлы,
Ласкавы і патрабавальны,
Зацяты і ўседаравальны.

Не, ён не там, ён тут, ён недзе тут.
І ява ясная, і цуд!
Я вам кажу, што тут ён недзе,
На гэтым свеце і ў гэтым леце,
На беразе жывой ракі.
Цяпер заўсёды і на ўсе вякі.
Ён недзе тут…

***Анатоль Вярцінскі***

## Тым, хто любіць Радзіму

Жыццё ў таго, як свет бліскавіцы,
Як чысты струменьчык святое крыніцы.
Любоў да Радзімы — гэта прызнанне,
Якое вышэй, чым проста каханне.
Прызнанне, што ты яе сын, абаронца,
Што ў тых, хто Радзімай сваёй даражыць,
Каму без яе і дня не пражыць,
Ты ёй удзячны бязмерна, бясконца,
Што будзеш ёй верным, не здрадзіш ніколі,
Што з ёй пойдзеш разам шукаць лепшай долі.
Што пройдзеш сваю на Галгофу дарогу,
Каб толькі ўрэшце здабыць перамогу.
Любоў да Радзімы — гэта прызнанне,
Гэта вышэй, чым проста каханне,
Бо ты яе сын — а яна твая Маці.
Квітнее яна — табе ўтульна ў хаце.

***Фелікс Шкірманкоў***



## Васілёк. Бычкі. Дарога.

*Зямны паклон нябёснаму Васілю Уладзіміравічу.*

Ножкі босыя.
Халодна.
Колецца атава.
Дзе той Віцебск?
Дзе Гародня?
Дзе сталіца й слава?

Шчэ не бачацца
Здалёк
Лёсавы сваволі…
Ёсць Бычкі.
Ёсць Васілёк.
Ёсць дарога ў полі.

Будзе ліха.
Будзе гром.
Будзе «пахаронка»…
А пакуль што
Пад вакном —
Арабіны гронка.

Спеляць яблыкі сады,
Гнецца колас
Долу…
Не, не згубяцца
Сляды
З Божага дазволу.

Бо ў мілосці
Ці ў бядзе,
Праз гады
І стому,
Ёсць Дарога,
Што вядзе
З дому і дадому.

***Кастусь Севярынец***

* * *

Чытаю Быкава — і зноў
Вяртаюся ў краіну сноў,
У старану маю лясную,
Якую,
Покуль я існую,
Люблю ў затуле тумапоў,
Ёй плачу, бачу, ёй блазную.

Завецца ўшацкай старана,
Там Селішчы і Старына,
Бычкі, і Дольцы, і Гарані,
І Чараноўшчына,

І ўранні
Лубее ў елкі карына,
І каня нікне ў дакаранні.
Ашчадны быкаўскі радок,
Як непрытомлены хадок,
Вядзе на топішча, на ляды,
На Посніцу, Дзяды, Каляды.
І рада, ўчуўшы халадок,
Душа, сабе не даўшы рады.
З раўка бярэ разгон рака.
З рыўка вітае ўзмах рука,
Абнылае крыло самоты.
Пачуеш з даўніны само ты
Папрок шпака,
І крок грака,
Напоўніш золлю смутку соты.

Узмежкам, палазнёй, лядком
За словам быкаўскім,
Радком,
Не ўзяўшы ў павадыркі стому,
Іду,
Вяртаюся дадому,
Што выціраў слязу крадком,
Не пахваліўшыся нікому.

***Рыгор Барадулін***



* * *

Я ніколі
І нікому
Нізавошта не ўступлю
Нашу працу,
Нашу стому,
Нашу глейкую зямлю.

Гэта родныя мне людзі
Назаўсёды аддалі,
Гэта ўсё са мною будзе,
Пакуль буду на зямлі.

І ніякія дзяржавы,
І ніякія цары,
Адабраць не маюць права
Ні крынічкі, ні зары,
Ні глытка жаданай волі,
Ні прыдбанага сцяжка,
Ні засеянага поля,
Ні мурожнага стажка.
Гэту гліцу,
Гэту гліну,
Веснавы грачыны гам,
Як і мне калісьці, —
Сыну
Я аднойчы перадам,
Каб збярог і не расфукаў,
Богам дадзенае нам,
Перадаў у рукі ўнукам,
А яны —
Сваім сынам.
І далей
Ад сына — сыну,
З сэрца — сэрцу,
З веку ў век
Нескапчона
І няспынна,
Покуль будзе чалавек.

***Генадзь Бураўкін***

## Роднае

Вясновы першы гром
Скаціўся, як з гары,
І рэха ля крыніц дубы хістае.
Бусліная зямля. Азёры ды бары.
Акопы ды палын. Зямля святая.
Тут не забыты плач.
І не забыты смех.
Не аціхае спеў чарод птушыных.
Тут дождж не проста дождж.
І снег не проста снег.
Бо гэта дождж і снег
Над берагам Айчыны.

***Уладзімір Някляеў***



## Красуня Вясна

Напрадвесні плачуць ледзяшы
Ручаіны звоняць на прадвесні.
Ты мне ціха — ціха для душы
Заспявай прадвеснявую песню...

Хай душа ўскалышацца да дна
І туды пакліча, дзе святая
На ўзлеску юная Вясна
Першыя пралескі рассыпае...

Красуня Вясна звініць ручаінамі ў полі.
Красуня Вясна сястра нашай Волі.
Красуня Вясна ў бела-чырвоным убранні.
Красуня Вясна чароўная фея кахання...

Ад Вясны нікуды не ўцячы...
І праз вецер, што сцягі палошча,
Пойдзем мы з табою, каб уначы
Запаліць агеньчыкі на Плошчы...

Будзем мы стаяць і ўспамінаць
Тых, каго няма сягоння з намі,
Тых, каго мы будзем сустракаць
З бел-чырвона-белымі сцягамі...

***Уладзімір Някляеў***

**Жыві, Беларусь!**

Жыві, Беларусь! Веру, будзеш жыць заўсёды.
Святло «Пагоні» будзе сэрцы нашы акрыляць.
Жыве, жыве наш край пакутны і свабодны,
Нескароная нікім і святая зямля.

Беларусь! Беларусь! Хай цябе мінуць усе нягоды,
Век у шчасці жыві, ты, Радзіма мая!
Жыве Беларусь — нашай долі абуджэнне.
Краіна-маці, ты прызнанне шчырае прымі:

Жыве! Жыве! Гучыць узнёсла блаславенне,
Беларускі вольны дух уваскрос з даўніны.
Беларусь! Беларусь! Мы тваё вітаем адраджэнне,
Будзеш вечна вольнай ты, будзем вольнымі мы.

Жыве Беларусь! Нас нядоля не здалела.
Магутны Божа, беражы Айчыну з году ў год.
Жыве! Жыве! Як непагасны сімвал веры,

Будзе вечна на зямлі паспаліты наш род.
Беларусь! Беларусь! Пад штандарам бел-
чырвона-белым
Век у шчасці жыві, беларускі народ!

***Уладзімір Някляеў***



## Спіс літаратуры

1. Васіль Быкаў. Рыгор Барадулін. Калі рукаюцца душы. — Мінск: Беларускае таварыства «Кніга», 2003.
2. Рыгор Барадулін. Збор твораў. — Мінск: Кнігазбор, 2008.
3. Павал Севярынец. Люблю Беларусь. — Вільня: Інстытут Беларусістыкі, 2007.
4. Аляксандр Тамковіч. Лёсы. — Смаленск, 2009.
5. Уладзімір Арлоў. Паром праз Ля-Манш. — Мінск: Логвінаў, 2008.
6. Аляксандр Мілінкевіч — лідэр свабодных беларусаў. — Брянск, ООО «БрендПринт», 2010.
7. Уладзімір Някляеў. Кон. Зборнік вершаў. — Мінск, Лімарыус, 2010.
8. Генадзь Бураўкін. Збор твораў. — Мінск: Кнігазбор, 2009.
9. Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому. — Мінск: ГАБТ «Кніга», 2003.
10. Фелікс Шкірманкоў. Беларусь — любы край. — 2007.
11. Уладзімір Арлоў. Імёны Свабоды. — Радыё Свабодная Эўропа. Радыё Свабода, 2007.



мест

Літаратурна-мастацкае выданне

# Носьбіты вольнага слова

**Лаўрэаты прэміі «За свабоду думкі»**
**2008–2011 гадоў**

*Выданне падрыхтавана*
*Праваабаронча-асветніцкім грамадскім аб'яднаннем*
*«Рух "За Свабоду"» пры падтрымцы*
*Славацкага Агенцтва па Міжнародным развіцці*
*і супрацоўніцтву.*

РУХ за свабоду
праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне




Складальнік **Дзвінская** Эла
Тэксты А. Мілінкевіча, Э. Дзвінскай,
А. Тамковіча, М. Скоблы, В. Хвоін

Фота Арцёма Лявы, Элы Дзвінскай

Камп'ютэрны дызайн, вёрстка А. Хітрова
Дызайн вокладкі А. Хітрова

Падпісана да друку ??.06.2012. Фармат 60x84 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,36. Улік.-выд. арк. 4,6.

Printed in EU.